БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 22 (13502)

27 мая—2 чэрвеня 1991 года

Цана 20 кап.

## *1 чэрвеня — Сусветны дзень абароны дзяцей*







Фота С. Брушко.

## ЧЫТАЙЦЕ Ў НУМАРЫ

*Тыдзень парламента*

# Прыватнік па пашпарту?

НА ГЭТЫМ ТЫДНІ дэпутаты не зацвердзілі ў першым чытанні законапраект «Аб прыватызацыі ў Беларускай ССР». Па прапанове дэпутата П. Садоўскага далейшы разгляд пытання адбудзецца пасля абагульнення заўваг, якія паступілі ў час абмеркавання. Наіўна было б лічыць, што дакумент, у якім размова ідзе фактычна аб рэвалюцыі ў эканоміцы, пройдзе з першага заходу. «Ён падзеліць усіх на бедных і багатых», — сцвярджалі адны. «Ён дасць магчымасць кожнаму зарабіць», — адзначалі другія.

**Хаця знешне атмасфера залы не нагадвала вір, як гэта было у дзень адкрыцця сесіі, усё ж адчувалася, што ідзе напружаная праца думкі... Ставілася пытанне, хто канкрэтна будзе займацца прыватызацыяй на розных дзяржаўных узроўнях, выказвалася пераканне: перш чым гаварыць аб прыватызацыі, трэба прызнаць існаванне рынку ўвогуле, гучала сумненне: у многіх не хопіць сродкаў для набыцця маёмасці ў прыватную уласнасць. Трэба сказаць, што агульную накіраванасць законапраекта большасць усё ж прызнала прагрэсіўнай. Аднак амаль усе выступаючыя адзначалі, што самае слабае яго месца — адсутнасць сувязі з іншымі законамі. З такім, напрыклад, як Закон аб грамадзянстве ў Беларускай ССР.**




Старшыня пастаяннай Камісіі ВС БССР па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах Міхаіл Слямнёў заўважыў: няпэўнасць паняцця грамадзянін БССР прывядзе да таго, што Закон аб прыватызацыі ўвогуле не будзе працаваць. Чаму? Ды таму, што сёння 31 артыкул Канстытуцыі БССР гаворыць: грамадзяне СССР маюць тыя ж самыя правы на тэрыторыі Беларусі, што і грамадзяне БССР з усімі вынікаючымі адсюль абставінамі. Любы, хто прыедзе да нас з іншых рэгіёнаў краіны, па сённяшняму заканадаўству зможа карыстацца дзяржаўнай маёмасцю нароўні з карэнным насельніцтвам. А згодна з Законам аб прыватызацыі, натуральна зможа свабодна набываць уласнасць.

**Напрыклад, ужо зараз у Камісію па нацыянальнай палітыцы пастулае шмат заяў, пісьмаў, ідуць хадакі з Закаўказзя, прыбываюць бежанцы з падобнымі просьбамі. «Мы згодны купіць любую кватэру за любы кошт», — гавораць яны. Зазначым, што пакуль размова ідзе толькі аб кватэрах, якія прадаюцца. А калі з малатка пойдуць магазіны, заводзікі, цырульні... Можна колькі хочаш весці ў парламенце гутарку аб тым, што нас могуць купіць, што трэба паставіць заслону ценевікам, — усе гэтыя разважанні беспрадметныя і незаконныя, бо заканадаўцы не маюць у пакеце рынвчных дакументаў такога, які гарантаваў бы насельніцтву рэспублікі першачарговае права на набыццё ўласнасці. А без Закона аб грамадзянстве няма ўпэўненасці, што махляры, спекулянты і дзялкі з тоўстымі кашалькамі, якія перадыслацыруюцца з іншых рэгіёнаў у наш, не стануць амаль галоўнымі ўласнікамі ў рэспубліцы. Тым больш, што насельніцтва Беларусі мае не вельмі высокія ўклады ў ашчадных банках. У выніку вельмі верагодна, што наша дзяржаўная маёмасць не будзе нам належаць.**

Які ж зараз лёс Закона аб грамадзянстве ў Беларускай ССР? Старшыня Камісіі па нацыянальнай палітыцы Міхаіл Слямнёў паведаміў, што двойчы гэты законапраект прадстаўляўся на суд Вярхоўнага Савета і двойчы быў адкладзены. Большасць палічыла яго несвоечасовым, а саму ідэю тэарэтызаванай. Бясспрэчна, спрацаваў стары стэрэатып. Да таго часу, пакуль мы не ўзялі курс на рынак, пакуль граніцы паміж рэспублікамі былі ўмоўнымі, пакуль не прымаліся дэкларацыі аб суверэнітэце з адсутнасцю паняцця грамадзянін рэспублікі, можна было мірыцца. Зараз жа, калі распрацоўваецца пакет законаў аб рынку, без гэтага не абысціся.

**Каго лічыць грамадзянінам БССР у нашай рэспубліцы? Таго, у каго нацыянальнасць беларус? Не, на тэрыторыі Беларусі жывуць і рускія, і ўкраінцы, і палякі, і г.д. Па прапісцы таксама нельга. Вёрткі чалавек арганізуе яе сабе ўмомант. І па пашпарту грамадзянства рэспублікі не засведчыць. Зусім відавочна, што патрэбна асобае заканадаўства, якое б улічвала спецыфічныя асаблівасці Беларусі, з яе Чарнобылем, з традыцыямі, над якімі доўгі час панаваў духоўны гнёт русіфікацыі.**

Камісія распрацавала такі законапраект. У ім, напрыклад, прапануецца аўтаматычна лічыць грамадзянамі БССР усіх жыхароў Беларусі, якія на момант прыняцця закона пражываюць на тэрыторыі рэспублікі. Для тых, хто будзе прыязджаць да нас пазней, пасля таго, як закон уступіць у сілу, установіць так званы выпрабавальны тэрмін з тым, каб гэтыя людзі пацвердзілі свае абавязацельствы паважаць і выконваць законы БССР, у тым ліку і Закон аб беларускай мове. Тэрмін выпрабавання прапануецца ўстанавіць ад аднаго года да сямі. Але гэта вызначаць Вярхоўнаму Савету. Мяркуецца, што такі падыход створыць найбольш спрыяльныя ўмовы для развіцця нацыянальнай культуры, захавання традыцый.

Але на гэтую сесію камісія свой законапраект не выносіць, разумеючы, што яго не падтрымаюць да таго часу, пакуль не будзе заключаны Саюзны дагавор. У апошнім, між іншым, таксама ёсць палажэнне аб грамадзянстве, але, на жаль, яно трактуецца, як і ў цяперашніх канстытуцыях БССР і СССР. Калі такая фармуліроўка захаваецца, Закон аб прыватызацыі ў Беларусі нічога не будзе значыць.

Паводле слоў М. Слямнёва, перспектывы зараз такія: Закон аб прыватызацыі разглядаецца ў першым чытанні і да другога, а яно, верагодна, адбудзецца на наступнай сесіі, недзе ў верасні, Саюзны дагавор хутчэй за ўсё будзе заключаны. Тады Камісія па нацыянальнай палітыцы прадставіць Вярхоўнаму Савету ўласны праект Закона аб грамадзянстве. Ва ўсялякім разе яна гатова яго адстойваць.

**В. ШАЎКО.**
Фота **С. БРУШКО.**

**Як паведамлялася ўжо, трыццацігадовай француженцы Мары-Клод Адам пашчасціла стаць першай, і пакуль адзінай, француженкай, якая зрабіла своеасаблівы подзвіг: у яе нарадзілася адразу шэсць дзяцей. Да гэтай радаснай падзеі ў Мары-Клод ніколі не было дзяцей, а тут адразу яна ператварылася ў мнагадзетную маці.**

**Цяпер, калі прайшло больш як два гады, дзеці адчуваюць сябе выдатна, вядома ж, клопатаў у Даніэля і Мары-Клод значна прыбавілася. Але гэта ўсё прыемныя клопаты, ды і ўлады гарадка Сен-Пьер-Лез-Эльбеф не пакідаюць маладую мнагадзетную сям'ю без увагі.**

**На здымку: накарміць шасцярых дзяцей удаецца толькі ў чатыры рукі.**

Фотахроніка ТАСС.



# Дапамажыце!

«Выбачайце за ваша дзяцінства», — ці не гэта нам самы час сказаць нашым дзецям? За забруджаныя рэкі і лясы, за атручанае паветра. І няма горш наслання, чым калі хварэюць і пакутуюць дзеці.

Чарнобыльскі вецер прынёс бяду і ў дом настаўніцы Галіны Горбач з Гродна. Яе адзіную 16-гадовую дачку Наташу напаткала цяжкая хвароба — рак шчытападобнай залозы. Медыкі лічаць, што жыццё дзяўчынкі могуць ураваць толькі кансультацыі і лячэнне за мяжой.

**«Аднакласнікі Наташы стаяць у Гародні на рынку і збіраюць міласціну для выратавання сваёй хворай сяброўкі... Затое наша дзяржава-жабрачка не можа (ці не хоча?) знайсці грошы на выратаванне дзяцей, якіх яна ж і загубіла», — напісала Наташына маці.**

**Людзі добрыя, пачуйце яе боль! Дапамажыце маці ўратаваць адзінае яе дзіця...**

Для тых, хто можа ахвяраваць грошы, паведамляем рахунак: **АПЕРУ Беларускага рэспубліканскага банка Знешэканомбанка СССР у Мінску МФО 805153, рахунак № 07025809 «В». Грошы ў рублях пералічваць на рахунак № 29299 у ашчаднай касе № 641607 у г. Гродна.**



*Экспрэс-інтэрв'ю*

# Куды мы рушым... Уверх? Уніз?

Варта толькі прайсціся па вуліцах Мінска, як адразу пачынаеш бачыць заканамернасць: жанчын на вуліцах болей, чым мужчын. Тым больш, што чэргі, якія выстройваюцца зараз на вялікай адлегласці ад дзвярэй крамаў, складаюцца таксама пераважна з прадстаўніц цудоўнага полу. Вось мы і вырашылі высветліць у некаторых з нашых «чэргавых пакутніц», што яны думаюць пра накірунак руху нашай рэспублікі.

**І. ЧАРВЯКОВА, прыбіральшчыца:** Рыба гніе з галавы. Больш мне сказаць няма чаго, бо ад усіх гэтых адміністрацыйных будынкаў (у адным з іх я, дарэчы, і прыбіраю) за кіламетр пахне гніллю...

**Т. МАКОЎСКАЯ, бухгалтар:** Чэргі — гэта добра. Начальства ведае, што зараз нічога так проста не возьмеш, і не дужа прыдзіраецца, калі раней з працы збягаеш. А то сядзіш цэлы дзень, паперкі варушыш. Ды і дзе, акрамя чэргі, пабачыш такі паноптыкум? Нядаўна нават з прафесарам стаяла, які мяне ў інстытуце вучыў. Прафесару ж таксама сардэлек хочацца.

**З. ЛІХТАР, пенсіянерка:** Вы ўжо абрыдлі сваімі «інтэрв'ямі». Пішаце, а што толку з гэтага? Ці ў мяне ад гэтага ногі здаровымі стануць?

**М. КАБЯК, маладая маці:** Далібог, плакаць хочацца ад усяго гэтага. Гэты «ЦУМ» усю мяне высмактаў ужо. Але, ведаеце, можа і добра, што цэны павысілі. Зараз хоць штонебудзь ёсць.

— Дык няўжо Вам хапае грошай, каб сябе і дзіця ўтрымліваць?

— Я яшчэ і мужа-студэнта ўтрымліваю...

Слава вам, жанчыны!

*Юбілей!*

# Нашаму Максіму

**Прызнанне да геніяў прыходзіць пасля іх смерці. І ўжо праз дзесяцігоддзі пасля жыцця іх ладзяцца ўрачыстасці. Адна з іх — святкаванне стагоддзя з дня нараджэння... У нядзелю ў скверы каля помніка М. Багдановічу адбылося музычна-паэтычнае свята «Прысвячэнне паэту», у якім бралі ўдзел не толькі вядомыя ў нас оперныя спевакі, не толькі знаёмыя вузкім колам аматараў фальклорныя калектывы, але і малавядомыя на Беларусі беларусазнаўцы ўсяго свету.**

**Свята прайшло, і, мо, хоць крыху пройдзе самота Максіма...**

**У. ПУЧЫНСКІ.**

# Падзея!

Што гэта было? Свята? Нарада? І тое, і другое. Проста ў Мінску на некалькі дзён сабраліся тыя, хто мэтай свайго жыцця паставіў вывучэнне і захаванне беларускай культуры. Сусветны кангрэс беларусістаў сабраў у сталіцы Беларусі людзей, якія, хай яны нават і не належаць да беларусаў па крыві, але робяць для нашага народа значна болей, чым некаторыя чыстакроўныя беларусы. Надалей мы будзем знаёміць чытачоў нашай газеты з вынікамі гэтага кангрэса.

**А. РЫБАЛТОЎСКІ.**

*Новае выданне*

# «Мір і дом»

**В. ЗАЛЕСКАЯ, Віцебск.**

**У першыя дні лета аўдыторыя чытачоў рэспублікі атрымае новую газету, газету для ўсіх. Адметная рыса яе, у адрозненне ад многіх іншых выданняў — абысці хваробную сенсацыйнасць. Рэдакцыя кажа ўсім, да каго трапіць газета: «Мір вашаму дому». Што зараз больш важна?..**

# СУВЯЗНЫЯ ДАБРАЧЫННАСЦІ

**Сёння, у Сусветны дзень абароны дзяцей мы, на жаль, вымушаны канстатаваць: сітуацыя ў краіне складваецца такім чынам, што самыя маленькія яе грамадзяне сапраўды ўсё больш і больш маюць у абароне патрэбу. Наш субяседнік — Аляксандр Васільевіч ТРУХАН, першы намеснік старшыні Беларускага дзіцячага фонду — арганізацыі, якая мае самае прамое да гэтага дачыненне.**

**— Аляксандр Васільевіч, якім чынам адбіліся на вашай рабоце эканамічныя катаклізмы апошняга часу, у прыватнасці, красавіцкае павышэнне цэн?**

— Да нас патокам пайшлі людзі. Дзверы не зачыняюцца літаральна з раніцы да вечара. Просяць у асноўным выдаткаваць матэрыяльную дапамогу.

Шмат звяртаецца кіраўнікоў дзіцячых студый, спартыўных секцый, мастацкіх калектываў. Павышэнне цэн, хваля забастовак, якая прайшла па рэспубліцы, спрыялі таму, што ўскладнілася фінансавае становішча прадпрыемстваў. Нядаўна, скажам, прыйшлі да нас з народнай балетнай студыі «Раніца». Іх фінансаваў МТЗ — зараз адмаўляецца. Славуты дзіцячы калектыў можа распасціся.

Гэта вялікая праблема: дзіцячая творчасць, дзіцячы спорт сёння пад пагрозай.

Адна з чатырох праграм, якія вылучыў для сябе Дзіцячы фонд, называецца «Хуткая дапамога». Яна ўключае медыцынскія, юрыдычныя кансультацыі, але асноўнае — аднаразовая матэрыяльная дапамога. Звяртаецца, напрыклад, да нас чалавек з такой нагоды: прыехаў ён да дзіцяці, якое лечыцца ў адной з мінскіх бальніц, а на дарогу назад грошай не хапае. Ці — няма на што сёння паабедаць. Вось мы без абмеркавання на прэзідыуме (пакуль ён збярэцца!) выдаткоўваем пэўную суму — да 50 рублёў.

**— Ці не магчымыя тут злоўжыванні?**

— Мы ж высвятляем абставіны, глядзім дакументы. Ну і па чалавеку відаць...

Яшчэ адзін, напэўна, заканамерны, але надзвычай трывожны для нас вынік сённяшняй эканамічнай сітуацыі. Прыкметна скараціліся паступленні дабрачынных узносаў ад прадпрыемстваў, грамадскіх арганізацый і прыватных асоб. Усе пачалі лічыць грошы. Толькі-толькі ў грамадстве нашым пачало адраджацца паняцце «міласэрнасць» і зноў стала нібыта не да яе. Так, за чатыры месяцы гэтага года на рахунак Дзіцячага фонду паступіла 213 тысяч рублёў, прычым у асноўным гэта мэтавыя ўзносы на праграму «Дзеці Чарнобыля», а патрачана — 717 тысяч.

Вядома, мы стараемся прыстасавацца да новых абставін. Шукаем крыніцы, дзе ўзяць сродкі, ствараем пры Дзіцячым фондзе малыя прадпрыемствы, якія адлічваюць нам пэўныя працэнты, устанаўліваем невялікія нацэнкі на кнігі, якія выдаём.

У нас ёсць два рахункі. № 707 — дабрачынны і № 700 — рахунак, на які мы зарабляем грошы для таго, каб плаціць зарплату апарату, за арэнду памяшкання, за канцылярскія прылады і да т. п. Дык вось за тры гады свайго існавання з 707-га рахунку мы не ўзялі ніводнай капейкі на патрэбы апарату. Больш таго: расходы па прыёму замежных дэлегацый і гасцей аплачваюцца з рахунку № 700, а сродкі (валютныя, зразумела), якія нашы госці пералічваюць нам пасля гэтага, трапляюць на 707-ы рахунак.

Ён для нас святы. Адтуль ніводнага рубля не ўзята ні на замежныя камандзіроўкі, ні на прэміі супрацоўнікам. Толькі на дапамогу дзецям.

**— Сумная спецыфіка менавіта Беларускага дзіцячага фонду — клопаты пра маленькіх ахвяр чарнобыльскай катастрофы. У чым яны заключаюцца сёння?**

— Галоўным чынам у пошуку сродкаў — і ў сваёй рэспубліцы і за яе межамі — для набыцця медыцынскага абсталявання, медыкаментаў, вітамінаў, у адпраўцы ўсяго гэтага дзецям, якія жывуць у забруджаных радыенуклідамі раёнах. Усяго на рэалізацыю сваёй праграмы «Дзеці Чарнобыля» наш фонд сёлета мяркуе выдаткаваць 2 мільёны 400 рублёў.

Будзем працягваць і акцыю салідарнасці. Беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак зноў прымуць у сябе замежныя скаўцкія арганізацыі. 594 чалавекі паедуць у 7 краін Заходняй Еўропы і ў Паўднёвую Карэю. Акрамя гэтага дзве тысячы дзяцей па лініі Дзіцячага фонду паедуць у Германію і 333 — у Данію. Усяго за мяжой сёлета адпачнуць каля 3 тысяч маленькіх жыхароў рэспублікі. Усе яны — з Чарнобыльскай зоны. Усе — сіроты ці дзеці з няпоўных, мнагадзетных ці малазабяспечаных сем'яў.

**— Спісы вы самі кантралюеце?**

— Так. Як і летась. Плюс быў (і, думаю, будзе зноў) дадатковы кантроль з боку скаўтаў. Так што магу даць стопрацэнтную гарантыю, што тых, каго мы называем «блатнымі», не было і, пераканаНЫ, — не будзе.

У рэалізацыі праграмы «Дзеці Чарнобыля» нам вельмі дапамагаюць нашы замежныя партнёры. Так, паспяхова супрацоўнічаем мы з Хрысціянскім дзіцячым фондам, штаб-кватэра якога знаходзіцца ў Рычмандзе (ЗША) і з яго Усходне-Еўрапейскім аддзяленнем, якое ўзначальвае доктар Здзіслаў Паўлік. Яны нам прыслалі некалькі кантэйнераў з дзіцячым харчаваннем і вітамінамі. Цяпер мы чакаем у пачатку чэрвеня доктара Здзіслава Паўліка, каб пачаць наладжваць спонсарства.



У нас ужо ёсць анкета — мы збіраем звесткі пра дзяцей, якія маюць патрэбу ў дапамозе. Будзем шукаць высокааплатных людзей ці арганізацыі, скажам, кааператывы, якія адпаведна заключанаму з намі пагадненню адлічвалі б штомесяц некаторую суму на карысць пэўнага дзіцяці ці пэўнай сям'і. З удзелам Хрысціянскага дзіцячага фонду мы спадзяёмся знайсці такіх спонсараў за межамі краіны.

Увогуле нашы міжнародныя сувязі за апошні час вельмі пашырыліся. Мы пастаянна атрымліваем медыкаменты, вітаміны, дзіцячае харчаванне. Днямі, напрыклад, да нас прыбыў 40-тонны кантэйнер з дзіцячым харчаваннем ад дабрачыннай арганізацыі з ЗША, якой кіруе Норман Янг.

**— А як у вас, проста як у чалавека, не заядае гонар—увесь час штосьці прасіць, ды яшчэ ў замежнікаў?**

— Арганізацыя наша такая: штосьці сабраць і камусьці аддаць—злучыць тых, хто можа дапамагчы з тымі, хто мае ў гэтым патрэбу. Што ж датычыць менавіта замежнай дапамогі, прызнаюся, часам бывае прыкра: вялікая, магутная наша дзяржава даведзена да таго, што вымушана прасіць міласціну. Тыя ж прысланыя нам лекі: ну, не выратуюць жа яны ўсіх нашых дзяцей. Трэба вырабляць свае медыкаменты, свае вітаміны, сваё медыцынскае абсталяванне, а не чакаць, што Захад нам дапаможа. Ды і тое, што паступае, не заўсёды аказваецца ў прыстойным стане. Адзенне, як правіла, паношанае, медыцынская бялізна часам са слядамі крыві.

Так што і крыўдна бывае, і балюча. Суцяшае толькі тое, што просіш не для сябе асабіста, а для дзяцей, каму гэта сапраўды патрэбна.

**— Вы па лініі фонду адпраўляеце маленькіх хворых на лячэнне за мяжу. Па якому прынцыпу яны адбіраюцца?**

— Зараз у нас каля 200 заяў ад бацькоў, якія просяць, каб іх сына ці дачку паслалі лячыцца ў іншую краіну. Валюты ні ў рэспубліцы, ні ў Дзіцячым фондзе няма. А адна аперацыя з прычыны лейкозу ў ЗША каштуе ад 100 да 200 тысяч долараў. Мы шукаем клінікі, шукаем людзей, якія могуць запрасіць дзяцей на лячэнне без аплаты. Пасылаем выпіскі з гісторыі хваробы. Замежныя ўрачы выбіраюць пацыентаў самі: па медыцынскіх паказаннях. Не бяруць, як правіла, самых «лёгкіх» — лічаць, што можна і ў нас іх лячыць. Не бяруць самых «цяжкіх» — высокая верагоднасць лятальнага канца.

Праезд на лячэнне за мяжу дзецям і бацькам, якія іх суправаджаюць, наш фонд аплачвае.

Зараз мы заклапочаны тым, як арганізаваць летні адпачынак анкалагічна хворых хлопчыкаў і дзяўчынак. Справа ў тым, што адпаведна патрабаванням Міністэрства аховы здароўя СССР, ва ўмовах санаторыя, пансіяната адпачываць ім забаронена. Мы хочам арганізаваць спецыяльны лагер для такіх дзяцей, ці хаця б спецыяльную змену ў звычайным лагеры. У ЗША яны ёсць пры кожнай клініцы. У адным з іх — «Зламі вясёлку» адпачывалі летась і беларускія дзеці.

**— Ужо некалькі гадоў, у тым ліку і на пленумах Дзіцячага фонду, вядзецца гаворка аб неабходнасці стварэння ў рэспубліцы гаспадарак, якія б вырошчвалі чыстую прадукцыю для вырабу дзіцячага харчавання. Нават называўся, памятаецца, Нясвіжскі раён. Аднак цудоўная задума гэта так і засталася неажыццёўленай. Што перашкаджае?**

— Ідэі гэтай мы не пакідаем. Аднак, што датычыць Нясвіжскага раёна, там вучоныя зрабілі экспертызу глебы і далі заключэнне: хаця радыеактыўнага забруджання на ёй няма, але ўтрыманне нітратаў такое, што ні аб якім вырабе экалагічна чыстай прадукцыі і гутаркі ісці не можа. Мы пачалі шукаць новае месца. І знайшлі. Ва Ушацкім раёне аднаму з нашых малых прадпрыемстваў ужо выдзелена зямля. Раён гатовы дапамагчы пабудаваць неабходныя памяшканні, дзе будуць вырабляцца фруктовыя сокі, пюрэ, сумесі для дзіцячага харчавання. Усё ўпіраецца ў лініі і тэхналогіі па іх вырабу. Мы звярнуліся да ўсіх нашых замежных сяброў з просьбай падарыць такую лінію і такую тэхналогію. І літаральна некалькі тыдняў назад прадстаўнікі адной з дабрачынных арганізацый ЗША паабяцалі нашу просьбу выканаць у бліжэйшы час.

**— Думаю, сур'ёзная небяспека, якая пагражае сёння нашым дзецям, — прыгнечанасць духу, абумоўленая крызісам у грамадстве, дрэнным настроем бацькоў, стомленых ад барацьбы з жыццём. І, напэўна, ад прыгнечанасці гэтай таксама трэба дзяцей нашых абараняць. Хацелася б, каб у іх было пабольш святаў. Як сёлета будзе святкавацца 1 чэрвеня?**

— Прыемна было даведацца, што клапоціць гэта не толькі нас. Пазванілі, скажам, студэнты тэатральна-мастацкага інстытута і прапанавалі даць дабрачынны спектакль. Мотавелазавод запрасіў на дзіцячае спартыўнае свята.

Напярэдадні 1 чэрвеня Дзіцячы фонд упершыню прысудзіў свае прэміі: імя Тусналобавай-Марчанка і «Сябар дзяцей», выдаткаваў 34 стыпендыі таленавітым дзецям, у асноўным з малазабяспечаных сем'яў.

На турбазу «Вілія» з 28 па 1 чэрвеня мы запрасілі дарослых і маленькіх членаў сямейных дзіцячых дамоў. Туды ж прыедуць псіхолагі, урачы, прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў. Усе разам яны абмяркуюць праблемы, якія ўзнікаюць у гэтых новых для нашага грамадства фарміраваннях.

Цэнтральным 1 чэрвеня стане вялікае дзіцячае свята ў парку імя Горкага. Пачнецца яно ў 12 гадзін дня і закончыцца ў 22.00 — маляўнічым феерверкам. На ўсіх канцэртных пляцоўках парку будуць выступаць прафесіянальныя мастацкія і самадзейныя калектывы.

У Дзяржаўным цырку адбудзецца дабрачыннае прадстаўленне для хлопчыкаў і дзяўчынак са школ-інтэрнатаў, дзіцячых дамоў, дамоў дзіцяці і мнагадзетных сем'яў.

Адным словам, спадзяёмся, што свята нашых дзяцей атрымаецца сапраўдным святам.

Гутарку вяла
Г. ПШОНІК.



# Каму на Белай Русі добра жыць?..

СКАЗАЦЬ ПА ПРАЎДЗЕ, такую назву свайму артыкулу я даў невыпадкова. Памятаеце паэму вядомага расейскага паэта Някрасава «Каму на Русі жыць добра»? А справа ў тым, што ідэя напісання вершаванай паэмы і публіцыстычнага артыкула, у дадзеным выпадку, супадае. Заўсёды, ва ўсе часы людзі, імкнучыся жыць лепш, суадносяць свае жаданні з канкрэтнымі прыкладамі, што існуюць побач. У час Някрасава для туляг-жабракоў такімі прыкладамі сталі поп, пан і г. д. І, не маючы гістарычнай, эканамічнай, палітычнай і іншых магчымасцей будаваць сваё матэрыяльнае існаванне не горш за гаспадароў жыцця, людзі пачынаюць зайздросціць і пераносіць сваё незадавальненне такім раскладам на палітыку, што прыводзіць, у рэшце рэшт, да бунтаў, рэвалюцый, устанаўлення дыктатур. Мінае пэўны час — і зноў нехта мае ўсё, нехта што-нішто, а нехта — па-ранейшаму нічога. Што гэта: законы спіральнага развіцця чалавецтва, адметная рыса чалавечага характару, насмешка лёсу?

Пытанні гэтыя задаваў сабе пад час вясновага абуджэння Беларусі, калі вокліч «Страйк!» спыніў работу амаль усіх прадпрыемстваў і заводаў Мінска і вывеў на вуліцы рабочых. І, што самае дзіўнае, рабочыя не толькі марылі аб паляпшэнні матэрыяльных умоў свайго існавання, яны змагаліся супраць тых, каму, на іх погляд, сёння на Белай Русі добра жывецца. Менавіта таму і значыліся першымі пунктамі ў патрабаваннях страйкомаў дэпалітызацыя прадпрыемстваў, прыватызацыя сродкаў вытворчасці, канфіскацыя маёмасці КПСС — КПБ і іншыя пункты. Па сутнасці, параўноўваючы сітуацыю, што склалася сёння ў рэспубліцы, і тэзісы, якімі нас багата кармілі пад час вывучэння «гісторыі КПСС», можна зрабіць вывад: у краіне склалася рэвалюцыйная сітуацыя, калі народ выступае супраць існуючага эканамічнага і палітычнага ладу, а ўладу маючыя — за яго захаванне. І ўсё ж каму на Белай Русі сёння добра жыць? Пытанне складанае і не мае простага адказу. Але ж...

Перш-наперш да людзей гэтай катэгорыі я аднясу і, упэўнены, што не памылюся, функцыянераў партыйнага апарату і вышэйшую кіруючую наменклатуру. Адчуўшы, што карабель сацыялістычнай эканомікі нястрымна нясецца на рыфы, яны задоўга да павышэння цэн скінулі на ваду плыты ў выглядзе значнага павышэння сваіх акладаў.

Значна расшырыліся і разбухлі штаты супрацоўнікаў Саветаў (у тым ліку і ВС БССР), сабраўшы пад сваім дахам вялікую колькасць рэферэнтаў, дарадчыкаў і інш. Я не бяруся рабіць штатны расклад ВС ці гарсавета, але ведаю, што, напрыклад, у ЗША ў горадзе з мільённым насельніцтвам у мэрыі працуе не больш як 10 чалавек.

Да найбольш жа спрытна жывучых на Беларусі хацелася б аднесці пачынаючых прадпрымальнікаў і кааператараў. Карыстаючыся цяжкім, безвыходным становішчам занядбанай прамысловасці, яны ствараюць уласныя прадпрыемствы, рэнтабельнасць якіх складае 300 і болей працэнтаў. Заробкі іх здзіўляюць нават бачыўшых на ўласныя вочы вялікія грошы людзей. Ды балазе яны ёсць увогуле, гэтыя пачынаючыя капіталісты, людзі бывалыя, не адзін дзесятак мільёнаў ад падаткаў схаваўшыя. У рэшце рэшт яны хоць нешта выпрацоўваюць у адрозненне ад спекулянтаў і гандлёвай мафіі, што жывуць за кошт разваленага цягніка нашай эканомікі. Будзем спадзявацца, што будучае не за імі, а пачынаючых прадпрымальнікаў Савецкай дзяржавы рынак зробіць больш (ці менш) сумленнымі — іх бронецягнік на запасным шляху.

Не ў адзін рад, безумоўна, але да гэтага спісу далучу і кіраўнікоў вялікіх прадпрыемстваў і сельскай гаспадаркі. Атрымаўшы магчымасць па свайму жаданню маніпуліраваць грашыма з фондаў зарплаты, яны шпарка вырашылі пытанне інфляцыі, павысіўшы свае даходы.



У той жа час тысячы людзей, у тым ліку амаль усе студэнты, пенсіянеры і хатнія гаспадыні, знаходзяцца афіцыйна за мяжой беднасці (нагадаю, ніжэйшая лічба, устаноўленая ў рэспубліцы, — 139 рублёў, а рэальная каля 300). Ім у вочы ўжо пачынае заглядваць матухна-галадуха. Што, зноў вяртаюцца часы «Пяці лыжак заціркі»? Нікому не сакрэт — толькі гаспадар можа накарміць сёння людзей. А дзе ён, той гаспадар? Апошняга на Заходняй Беларусі «вызвалілі» ў 1939 годзе, а на Усходняй і таго раней—у 1928, пасля заканчэння нэпа. Многія сцвярджаюць, што неабходна поўная і тэрміновая прыватызацыя. Праўда, нельга забывацца і на тое, што рыначныя адносіны прынясуць нам і рынак працоўных рук, беспрацоўе. Гэта сёння яшчэ можна сустрэць надпісы: «патрабуецца на працу», хаця ўжо другі раз цяжка ўладкавацца па спецыяльнасці. А што будзе далей? А далей, паводле прагнозаў спецыялістаў, будзе да трыццаці мільёнаў беспрацоўных па Саюзу. І створаныя рэспубліканскія і саюзныя фонды занятасці наўрад ці здолеюць забяспечыць неабходным мінімумам для жыцця, калі нават сёння людзі за сваю працу маюць грашы. Але звернемся, нарэшце, да звестак Дзяржкамстата.

Агульны даход з разлікам на члена сям'і ў месяц па рэспубліцы складаў:

| | 1970 | 1989 | 1990 |
|---|---|---|---|
| Рабочыя і служачыя (саўгаснікі) | 81 руб. | 171 руб. | 194 руб. |
| Калгаснікі | 66 руб. | 179 руб. | 199 руб. |

* У апытанні ўдзельнічалі 3,5 тысячы чалавек.

Колькі ж у такім выпадку будуць атрымліваць беспрацоўныя? Паводле звестак, у фонд занятасці ўсе прадпрыемствы будуць адлічваць не менш чым 1 працэнт з фонду заработнай платы. Дзесятая частка сабраных грошай будзе перадавацца ў саюзны фонд. І ўжо ў другой палове 1991 года ў саюзным фондзе будзе налічвацца 200 мільёнаў рублёў. Толькі ці надоўга іх хопіць? Узровень жыцця расце і ўжо заўтра, паводле прагнозаў, на рынку рэч, што каштуе сёння 1000 рублёў, будзе каштаваць у два разы больш. А тым часам даходы людзей да смешнага малыя (звесткі за студзень — сакавік 1991 года Дзяржкамстата).

| Галіна | Зарплата ў рублях | Даход у рублях |
|---|---|---|
| Прамысловасць | 294.2 | 302,5 |
| Сельская гаспадарка (без калгасаў) | 256,0 | 261,6 |
| Транспарт | 316,9 | 321,0 |
| Будоўля | 349,9 | 355,8 |
| Гандаль | 256,9 | 263,8 |

У сярэднім жа прыбытак па рэспубліцы за гэты ж тэрмін склаў сярод рабочых і служачых 290,3 рубля, сярод сялян — 246,6 рубля мінус шматлікія падаткі, што тут не ўлічаны. Застаецца акурат, каб пракарміць сям'ю. На большае ўжо проста не хапае ў працоўнага чалавека. Дык ці ёсць яшчэ якія-небудзь сумненні, што датычыцца прыватызацыі і пераходу да самарэгулюемага, свабоднага рынку? Выказваюцца, праўда, яшчэ меркаванні і прапановы аб стварэнні свабоднай эканамічнай зоны. А што калі паспрабаваць стварыць такую зону на Беларусі? І, упэўнены, знайшліся б зацікаўленыя заходнія бізнесмены, згодныя адкрыць сваю справу на нашай зямлі. Вось толькі два нюансы. Як стварыць свабодную ад бюракратычных замарочак зону? Сёння сувязі паміж прадпрыемствамі Беларусі і заходнімі фірмамі значна пашырыліся. І таму пабольшала колькасць выязджаючых за мяжу па лініі Міністэрства замежных спраў БССР. Звярнуўшыся нядаўна па справах у МЗС, я сутыкнуўся са звыклай для нас праблемай — чарга на здачу дакументаў. Прапускная магчымасць МЗС 30 чалавек у прыёмны дзень (такія дні тры на тыдні). І людзі, каб патрапіць на прыём а 14 гадзіне, займаюць чаргу ў 9 раніцы. Гэта для таго, каб выканаць свае працоўныя абавязкі і ў працоўны час. Вось і з'явілася ў нас афіцыйная пасада — стаячага ў чарзе. А гэтыя ж людзі едуць не ў турпаездку — па службовых кантактах. Як працаваць у такіх умовах? І другое. Кітайцы, распрацаваўшы ідэю свабодных эканамічных зон, хутка зразумелі, што зоны гэтыя не могуць быць свабоднымі для ўсіх. І ў першую чаргу для сваіх жа суайчыннікаў. Яны не выжывуць (СЭЗ), калі стануць прахадным дваром. Сацыялістычная сістэма гаспадарання ў астатніх раёнах падамне пад сябе гэтыя зародкі вольнай эканомікі. І таму перш за ўсё кітайцы абгароджвалі будучыя свабодныя зоны плотам альбо калючым дротам і ўводзілі пропускі. Дзе набрацца дроту, каб агарадзіць Беларусь і ці прыемна будзе жыць нам за ім?

Ускладняе сітуацыю і Чарнобыль: трэба ж змагацца і з яго наступствамі.

Бастуючыя рабочыя патрабавалі, натуральна, і павышэння зарплаты. Кіраўніцтва рэспублікі абяцала вырашыць гэта пытанне. А адкуль возьмуцца грошы, калі дэфіцыт бюджэту Беларусі складае некалькі мільёнаў рублёў? Які сэнс у такім павышэнні, калі адначасова растуць цэны? Прадпрыемствы спрабуюць дапамагчы сваім рабочым, выкарыстоўваючы фонды сацыяльнага развіцця, альбо амартызацыйны фонд. Гэта значыць, што абнаўленне абсталявання запавольваецца (калі не спыняецца ўвогуле). А гэта паступовая смерць, бо немагчыма выпускаць звышсучасную прадукцыю на дарэвалюцыйных станках.

Як хацелася б на пытанне «Каму на Белай Русі добра жыць?» адказаць: «Таму, хто добра працуе». Але гэта не будзе праўдай, пакуль што — наадварот.

Затаіўшыся, маўчыць ваенна-прамысловы комплекс, але і пазіцый сваіх не здае. А сёння я больш баюся голаду, чым невядомага ворага. Бо голад нясе нам небяспеку грамадзянскай вайны. У адной з самых буйных ядзерных дзяржаў — Беларусі. Ці ж не час ВПК вярнуць тое, што запазычылі ў народа? А ёсць яшчэ і мільёны даляраў, якія ідуць на «падтрымку» брацкіх дзяржаў.



Жыццё даражэе. Кампенсацыя не нясе палёгкі. Праграма выхаду з крызісу, якую прапанаваў прэм'ер-міністр Паўлаў, не вытрымлівае крытыкі. Пануюць заідэалагізаванасць і прыгнечанасць нацыянальных пачуццяў. Я выдатна разумею людзей, што выходзілі на плошчу. Але разумею і кіраўніцтва рэспублікі. Няцяжка зразумець і партапаратчыкаў. Я супраць барыкад, але ўжо сёння магу сказаць, хто на якім баку апынецца. І падзеліць людзей адно пытанне: «Каму на Белай Русі добра жыць?» А як хацелася б паразумецца! Толькі колькі можна адказваць простаму народу за глупствы свайго кіраўніцтва? Дзе ж выйсце? Я яго так і не знайшоў.

**Зміцер ЛУКАШУК,**
**аглядальнік «ЧЗ»**
**па пытаннях эканомікі.**

## *Між іншым*

### «АДЗІНСТВА» ВЕДАЕ, ЯК ВЫЙСЦІ З КРЫЗІСУ

*МІНСК. Пераход ад планавай эканомікі да рыначнай — лагічнае завяршэнне доўгатэрміновай акцыі замежных разведак — сцвярджаецца ў дакладзе Беларускай секцыі таварыства «Адзінства — за ленінізм і камуністычныя ідэалы».*

*Лідэр рэспубліканскага камітэта «Адзінства» Леанід Бірукоў прывёў асноўныя палажэнні альтэрнатыўнай праграмы выхаду краіны з крызісу. Распрацаваная Беларускай секцыяй «Адзінства» і адобраная дэпутацкай групай «Саюз», яна, у прыватнасці, прадугледжвае вета на экспарт нафты і газу, устанаўленне сацыялістычнай формы размеркавання нацыянальнага даходу, які выкарыстоўваецца на зарплату. У процівагу існуючым зараз суадносінам мінімальнай і максімальнай зарплаты 1:114 (па 70 рублёў у 43 млн. чалавек і тысячы ў кіраўніцтва краіны) праграма прадугледжвае суадносіны 1:4.*

### СТРАТЭГІЧНЫЯ РЫДЛЁЎКІ...

*МАГІЛЁЎ. 51 тысячу рыдлёвак з... тытану прыйшлося пусціць у розьнічны гандаль работнікам Магілёўскага прамгандлю. Тавар быў запланаваны на экспарт і значыўся па дакументах як выраб з чорнага металу. Праваахоўныя органы знайшлі ў іх стратэгічнае адценне і здзелку забаранілі. Затое цяпер у магіляўчан у руках стратэгічныя рыдлёўкі.*

### МАДЭЛЬ СЕЗОНА — КУРТКА З ВОКЛАДАК ПАРТБІЛЕТАЎ

**ПЕТРАПАЎЛАЎСК - КАМЧАЦКІ. Скураныя вокладкі на партбілеты зніклі з продажу ў Петрапаўлаўску - Камчацкім, паведамляе «Сібінформ». Вока на заляжалы тавар паклалі мясцовыя ўмельцы: з вокладак, сцёршы з дапамогай спецыяльнай апрацоўкі абрэвіятуру «КПСС», яны шыюць модную мадэль сезона — скураную куртку з «кавалачкаў». Цана такога вырабу на «чорным» рынку дасягае трох тысяч рублёў, а на яе вытворчасць патрабуецца 150—200 двухрублёвых вокладак. У якасці сыравіны ўмельцы выкарыстоўваюць таксама баксёрскія пальчаткі і афіцэрскія шапкі са скураным верхам.**

### ЧЫНОЎНІКІ АТРЫМЛІВАЮЦЬ БОЛЬШ ЗА ПРЭМ'ЕРАЎ

*КАПЕНГАГЕН. Міністр замежных спраў Даніі Уфе Элеман-Энсен заклікаў у Бруселі сваіх калег неадкладна замарозіць заработную плату чыноўнікам апарату Еўрапейскай садружнасці — нават калі яны будуць баставаць.*

*«Мне цяжка прыняць, што сярэдні чыноўнік апарату ЕС у Даніі атрымлівае больш, чым прэм'ер-міністр краіны», — заявіў міністр у сувязі з паведамленнямі аб тым, што працуючыя ў Капенгагене чыноўнікі камісіі ЕС атрымліваюць 60 тысяч крон у месяц пасля вылiку падаткаў.*

*Столькі атрымлівае, напрыклад, загадчык інфармацыйнага бюро ЕС у Капенгагене і будзе атрымліваць яшчэ амаль на дзесяць працэнтаў больш.*

### ДЗЕ ДАСТАЦЬ ГРОШАЙ!

*ВІЛЬНЮС. Такое пытанне задаюць сабе многія жыхары Літвы пасля павышэння цэн на тавары першай неабходнасці і паслугі ў 3—10 разоў. Тым больш, што зарплата засталася той жа або ненамнога павысілася.*

*У такой сітуацыі людзі ўсё часцей звяртаюцца да паслуг ламбарда ў Каўнасе які, паводле неафіцыйных даных, лічыцца самым багатым горадам у рэспубліцы.*

**...У рэдакцыі сядзіць хударлявы сівы чалавек. Размаўляе на чысцюткай беларускай мове... А калі даведваешся, што ён ужо шмат гадоў не жыве на Беларусі, — становіцца зразумелым: гэта адзін з тых, хто за межамі нашай рэспублікі не толькі не забываецца аб тым, дзе ён нарадзіўся, не толькі не пакінуў на радзіме родную мову, родныя вобразы, а наадварот — дзейна і шчыра прапаведуе на зямлі Ленінграда тую самую беларускасць, якой, на жаль, так мала на самой Беларусі...**

# Не чапайце сонца!



### МЫ АД ВАС ДАЛЁКА

— Я павяду вас на выставу, — кажа Анатоль Мяфодзьевіч Кірвель. Гэта ён, прыехаўшы на сусветны кангрэс беларусістаў, завітаў у «Чырвонку», каб пазнаёміць нас са сваімі землякамі, ленінградскімі мастакамі, якія нарадзіліся на Беларусі. Справа ў тым, што ў другой сталіцы заснавалася суполка беларусаў, куды ўваходзяць людзі розных прафесій, розных поглядаў на жыццё, але для якіх існуе адно святое паняцце — Беларусь.

І вось мы ў Доме мастацтваў. Некалькі чалавек задуменна ўглядаюцца ў палотны, пасярод залы ансамбль цымбалістак. Мастакоў — Юрыя Казака, Юрыя Рудака, Віктара Сівуху і Янку Чэрнякевіча адрозніваюць гальштукі-«бабачкі» з надпісам «маю гонар». Менавіта так і называецца выстава. 27 чысла адбылося яе афіцыйнае адкрыццё... Граюць цымбалы. Дзве маладзенькія салістачкі прымушаюць інструменты плакаць, смяяцца, гаварыць — адным словам здзяйсняць тое, што на беларускай мове называецца проста, — песня. Якія яны розныя, гэтыя салісткі! Адна — спакойная, задуменная, доўгія чорныя валасы ўюцца над струнамі... Другая — танюткая, беленькая дзяўчынка, на твары якой можна прачытаць кожную нотку, кожны пераліў музыкі. Эмоцыі гэтыя настолькі чыстыя, і настолькі ўліваецца мелодыя ў агульную атмасферу залы, настолькі чыста і высакародна ззяюць са сцен карціны нашых землякоў, што душа не можа заставацца на сваім адведзеным ёй Богам месцы, а імкнецца вырвацца на прасторы Сусвету і зліцца з душамі людзей, якія шчыра выліваюць іх на палотны.

### ...З РОЗНЫХ КРАЁЎ КОСМАСУ

Імкнёмся спасцігнуць. Спасцігаем. Так здаецца... Мастаку лёгка. У параўнанні з іншымі ён можа сказаць: «Я так бачу». І будзе мець рацыю. Таму што адно і тое ж, адзін і той жа пейзаж, адну і тую ж эмоцыю, адно і тое ж святло можна ўбачыць настолькі па-рознаму, і настолькі рознай можа быць рэчаіснасць, якая з'яўляецца пад промнямі святла на палатне, што немагчыма нават усвядоміць сабе тую прастору, якая адкрываецца перад мастаком, калі ён бярэ ў рукі пэндзаль.

Зоркі глядзяць адна на адну з супрацьлеглых сцен выставачнай залы. Гэтыя зоркі сапраўды нарадзіліся ў розных краях Космасу. Зорка ЮРЫЯ КАЗАКА ўзнікла там, дзе людзі бачаць усё настолькі вобразна, настолькі адрозніваючыся ад позірку іншых, што свет на іх палотнах прымае сапраўды касмічны выгляд. Я б нават пабаяўся назваць яго работы карцінамі ў чыстым выглядзе, здаецца, гэта натуральны Космас, трансфармаваўшыся, прайшоўшы праз душу мастака. Юрась фарбаў не шкадуе. Ён бязлітасна кідае іх на палатно, і поўныя філасофскай насычанасці работы сведчаць аб сіле яго адчування. А можа гэта і прадчуванне? «Філасаф» пераклікаецца з выявамі святых, «Партрэт жонкі мастака» быццам бы служыць працягам карціны з назвай «Яешня-91». Чаму працягам? Таму, што асноўная мэта гэтага мастака — духоўнасць, чыстая духоўнасць.

ЮРЫЙ РУДАК... Гэта чысты футурызм, класічны, неабцяжараны лішнімі дэталямі. Сапраўды нічога лішняга! Але мне б хацелася паказаць вам работу, якая носіць назву «Апошні акорд». Гэта плакетка, адлітая з металу, які прыняў сваю канчатковую форму пад таленавітымі рукамі майстра. Віяланчэль, прабітая вялікім цвіком, на які наматаліся струны... Гэты цвік увайшоў у сэрца мелодыі. На корпусе інструмента ў перспектыву ўваходзяць шэрагі дамоў, ленінградскіх дамоў. Цвік, убіты ў сэрца горада...

«Дзяды». Тры постаці за жалобным сталом. Троіца? Магчыма. Рублёўскія матывы? Магчыма. Але яны жывыя, гэтыя постаці, гэтыя продкі, гэтыя цені, што прыходзяць да нас на Дзяды. У Юрыя Рудака класічная піцерская манера. Выключна канкрэтная, выключна інтэлігентная.

Габелены і аплікацыі ВІКТАРА СІВУХІ — «Стогн», «Сутыкненне», «Зыход» — наскрозь пранізаныя адным: пошукам пачуцця меры. Гэта мне так здаецца. Таму што меры — гэтага святога паняцця, так мала ў нашым неспакойным жыцці... Гэта ж трэба — кавалкі звычайнага сукна, часам усяго двух колераў, размясціць так, што нават далёкаму ад мастацтва чалавеку становіцца яснай тая зорка, тое адзінае пачуццё, якое вяло мастака...

### БЯРЫЦЕ Ж СВЯТЛО!

ЯНКА ЧЭРНЯКЕВІЧ. Папера мае адзін недахоп: яна не дапамагае чалавеку ўбачыць. Яна можа дапамагчы ўспрыняць розумам, але калі б вы БАЧЫЛІ тое, што бачыў я...

Мы сядзелі ў фае перад залай, калі з яе выбег узрушаны Анатоль Кірвель, схапіў мяне за рукаў і з крыкам: «Хутчэй, хутчэй» пацягнуў мяне ў дзверы. Я спыніўся ля іх, хаця рабіць гэтага было, у прынцыпе, і не варта, сцяны выставачнай залы не было. Быў прамень святла, прамень сонца, які падаў на габелен. І ён знікаў, пераўтвараўся ў цёплы жнівеньскі дзень, у аблокі, якія сапраўды рухаліся, сапраўды жылі, ззялі пад гэтым промнем, што разбурыў абалонку Сусвету, мяжу паміж дзвюма рэчаіснасцямі... А ці толькі прамень — стваральнік гэтага? Мастак. Майстар. Беларус.

Габелен называўся «Жнівень» і не толькі ён стаў выразам светлай душы чалавечай. Янка Чэрнякевіч завесіў усю залу хусткамі, непаўторнымі ў сваёй прыгажосці, пейзажамі, краявідамі Ленінграда... Калі хто-небудзь праходзіў паміж промнем святла і габеленам, Анатоль Мяфодзьевіч Кірвель хапаўся за галаву і крычаў: «Не чапайце сонца!»... А яно ў гэты дзень не песціла сваім цяплом сталіцу Беларусі.

### СВОЙ КРЫЖ

*Кожны нясе свой крыж. Залаты, срэбны, пакутніцкі...*
*Але ж кожнаму ёсць што несці.*
*Ці варта праклінаць струпы ад крыжа — боскія крылы на тваёй спіне? (Анатоль Кірвель).*

Цяжка аб гэтым пісаць, але трэба. Справа ў тым, што мінская зямля аказалася для некаторых з нашых гасцей-мастакоў не вельмі гасціннай. Нават вельмі негасціннай. Пасля кангрэсу, на адным з вячэрніх мерапрыемстваў якога прысутнічалі мастакі, двое з іх былі вымушаны пераначаваць у міліцыі. Я таксама не прыхільнік выпівак, але любы стан чалавека, хай бы ён нават быў і п'яны, не з'яўляецца прычынай для таго, каб збіваць чалавека. Сорамна...

І на заканчэнне — некалькі надпісаў з Кнігі водгукаў, што ляжала на стале ў зале, падлога якой часам трэслася — пад Домам мастацтваў праходзіць лінія метро...

*«Паважаныя землякі з горада на Няве! У не самыя светлыя дні нашай роднай Беларусі дзякуй за памяць аб сваёй радзіме! Работы цудоўныя! Удач вам усім і прызнання!» Лукічова, Чахоўская.*

*«Мне было вельмі цікава азнаёміцца з узорамі Вашай творчасці, дзе дзіўным чынам адчуваецца ўплыў старажытнага беларускага мастацтва. Для яго было характэрным спалучэнне драматызму з раўнавагай і спакоем. Як гэта перадалося вам, тым, хто жыве ў іншым культурным асяродку? Можа праз гены? Можа праз нашу прыроду, яе воблік? Дзякуй, што не забываеце Беларусь...» Юрый Хадыка.*

На жаль, выставу наведала мала народу. А варта было. Бо мастакі нашы становяцца мастакамі толькі тады, калі з іх здзіраюць скуру, каб душа без перашкод вылятала з цела і злівалася з прыгажосцю Сусвету.

**Алесь ПАЛЫНСКІ.**
**Фота С. Брушко.**

## 28 мая — Дзень пагранічніка

Сёння над пагранічнай заставай, якая носіць імя Героя Савецкага Саюза Андрэя Мітрафанавіча Кіжаватава, — мірнае неба. Але і зараз тыя, хто ахоўвае заходнія рубяжы Айчыны, гатовы зрабіць усё, каб яны засталіся непарушнымі. Сведчанне выдатнай службы пагранічнікаў — шматлікія ўзнагароды і прэміі, якімі ўдастоіла заставу камандаванне Заходняй пагранічнай акругі. Апошнія два гады кіжаватаўцы пастаянна трымаюць першынство па ўсіх відах ваенна-палітычнай падрыхтоўкі. Толькі за чатыры месяцы гэтага года імі затрыманы шэраг парушальнікаў граніцы. Сярод іх — грамадзяне, якія мелі намер пакінуць нашу краіну, прыхапіўшы з сабой дакументы, утрымліваючыя дзяржаўную тайну.

Застава знаходзіцца побач з Брэстам і таму нясенне службы тут асабліва нялёгкае, патрабуе ад асабовага саставу работы без адзінай памылкі.

**НА ЗДЫМКАХ: трэніруецца «трывожная група»; у некалькіх дзесятках метраў ад заставы буйнейшая чыгуначная магістраль, якая звязвае нашу краіну з еўрапейскімі дзяржавамі. І тут нясуць службу пагранічнікі.**

Фота Э. Кабяка (БЕЛТА).



### Служба ад Буга да Курыл



## *Навіны народнай адукацыі*

### АЛЬТЭРНАТЫВА ЁСЦЬ!

***

У Адэсе адкрылася незвычайная платная школа. Тут рыхтуюць спецыялістаў для індывідуальнага навучання ў сям'і, прасцей кажучы, гувернёраў.

***

Магчыма, у верасні адкрыецца новая агульнаадукацыйная ўстанова — біржавая школа, у якой будуць вучыцца дзеці, пачынаючы з 6—7 гадоў.

У кожнага класа, а будзе ў ім не болей за 12 чалавек, з'явіцца настаўнік, знаёмы з усходняй філасофіяй выхавання духу і цела. Тэрмін навучання, якое, дарэчы, будзе не бясплатнае, — восем гадоў. Гэта абумоўлена прымяненнем інтэнсіўных метадаў навучання. Потым на працягу 2—3 гадоў выпускнікі будуць атрымліваць прафесіянальную адукацыю, якая дазволіць ім працаваць у сістэме фінансаў, крэдытаў, банкаўскіх і страхавых спраў.

### «НАДАКУЧЫЛА!»

Такі хор пачуўся тры гады таму ў лагеры «Дзяржынец», што ва Удмурцкай АССР. «Надакучылі горны, атрады, лінейкі... Будзем адпачываць, як пажадаем», — аб гэтым паведамілі «вышэйшаму начальству». У «начальства» здарыўся сардэчны прыступ, але... дазволілі. І вось ужо які год у «Дзяржынцы» адбываюцца дзіўныя падзеі. То лагер жыве старарускім княствам, а то раптам дружасным саюзам індзейскіх плямёнаў. Не, у лагерных «прэрыях» не разгулялася анархія. Тут усе далі клятву вернасці правадырам схаваць стрэлы і тамагаўкі, забыць «сцежку вайны», з павагай ставіцца да прыгожага полу. Хто дадумаўся да ўсяго? Самі дзеці. І, вядома, «вялікі правадыр саюза індзейскіх плямёнаў» начальнік лагера Л. І. Зонава.

Зайздросціце? А што перашкаджае вам зрабіць нешта падобнае?

## *Малюнак святлаценем*



Гэта — нашы дзеці. І ўсяго адзін крок ад трапяткой паслухмянасці дзяўчынкі з банцікамі — да неўтаймаванай стыхіі юначага пратэсту.

Фота С. ПЛЫТКЕВІЧА і ТАСС.



## *Нататкі настаўніка*

# БУТЭРБРОДЫ ПАДАЮЦЬ НАТОПЛЕНЫМ МАСЛАМ УНІЗ...

ДЗІВЫ ЗДАРАЮЦЦА не толькі ў нашай педагогіцы. Бо славутая дарослая навука пра выхаванне мае ўсё яшчэ дзіцячы ўзрост. Дзівы здараюцца і вакол... Дарослае выхаванне мудрасцям жыцця. Колькі ўжо разоў назіраў такія сцэны. Маці кідае малое пасярод вуліцы — некуды бяжыць, хочучы такім чынам выхаваць паслухмянасць ва ўласнага дзіцяці. А дзіця галосіць на ўсю вуліцу. Потым маці вяртаецца...

Што гэта? Выпадковасць? Не. А як тады зразумець кінутых дзяцей? І дзіцячыя садкі-садочкі нават у той дзень, калі ў маці ці ў бацькі выхадны. А як трапляюць дзеткі ў дзіцячыя дамы? Шкада такіх дзяцей, безумоўна. Але на адным шкадаванні жыцця не пабудуеш. Як тады зразумець, што бедных дзетак-сірот прымаюць па-за конкурсам у інстытуты. Маўляў, няхай хоць вучацца. Але ж грамадству патрэбны не бездапаможныя, а сапраўдныя спецыялісты. Добра, калі гэтыя сіроткі будуць добрымі настаўнікамі, урачамі, інжынерамі. А калі не? Не разумею конкурсаў абітурыентаў па вяскова-гарадской прыналежнасці, па радыяцыйных рэгіёнах. Быццам бы новаспечаны малады спецыяліст паедзе ў свае родныя мясціны! Напрыклад, у раёны Магілёўскай ці Гомельскай абласцей. У жыцці ўсё больш проста: такі выпускнік любымі сродкамі імкнецца застацца там, дзе «чыста».

Дык каго ж мы падманваем? Як разумець тыя дамы новых пасёлкаў, што будуюцца ўжо ў 1991 (!) годзе на Магілёўшчыне і Гомельшчыне, калі праз год-два плануюць адтуль высяляць людзей. Што гэта? Мудрая стратэгія? А потым крычым: не хапае грошай, каб павысіць зарплату дворніку ці педагогу.

Хто майстар лавіць тыя выкінутыя, як смецце, на вецер грошы, якія і так ужо на планеце не прызнаюцца. Наогул, дзівы нашы працягваюцца і ў крамах. Ёсць сокі для дзетак і сокі для дарослых. Цікава, чым жа яны адрозніваюцца? Толькі вадой і цукрам? Добрая школка для тых дзетак, што яшчэ і гаварыць не ўмеюць.

Настаўнікі працы знаёмяць вучняў па замежных часопісах з электроннай тэхнікай на першай гадзіне ўрока. А на другой гадзіне вучні бяруць у рукі рыдлёўкі, венікі, граблі — і ідуць падмятаць і прыбіраць тэрыторыю ля роднай школкі, што іх выхоўвае, рыхтуе да сапраўднага жыцця. Але ўсе вучні добра ведаюць: у школе ёсць дворнік, сваяк дырэктара, які толькі на паперы дворнік, а на справе — спраўна атрымлівае грошы.

***

Вось было б дзіва, калі б вучням далі права самім выбіраць сабе настаўнікаў, а не тых, хто прабіваецца да пенсіі ў штатным раскладзе школы... А то трэба вучню СШ № 16 г. Віцебска, напрыклад, вывучаць іспанскую мову толькі таму, што ён жыве ў мікрараёне гэтай школы. А калі вучань жадае авалодаць французскай? Школу мы ператварылі ў кармушку для настаўнікаў, хоць і надта нішчымную. Бо на настаўніцкім акладзе далёка не разгонішся... Мо, і працуюць, скажа нехта, настаўнікі дрэнна за малыя грошы.

Не, панове! Упэўнены, што каб заплацілі нашым настаўнікам заўтра па аднаму «кавалку»—кавалачку нашых кааператараў—і мала што змянілася б.

Зараз моднымі сталі забастоўкі настаўнікаў. Галадоўкі.

Але я не згодны з такім павышэннем зарплаты, як гэта плануецца. Райана плаціць грошы тым настаўнікам, якіх не ведае, толькі за праведзеныя (!) «гадзіны», што паставіла ў ведамасці завуч. Няхай лепш грошы ідуць у школу цалкам. І няхай самі настаўнікі дзеляць іх. Навошта плаціць аднолькава гультаю і творчаму работніку? А крытэрый аплаты — не міфічны. Правядзіце анкеты сярод вучняў, настаўнікаў. І яны вам налічаць заробак. Што, баіцеся? А інакш, упэўнены, наша рэформа ніколі не кранецца з месца. Трэба глядзець праўдзе ў вочы.

А вось калі магчыма будзе ў школе атрымаць і тысячу, і дзве — заслужаныя! — туды вернуцца здольныя педагогі. Вернуцца мужчыны, якія, нарэшце, змогуць пракарміць сваю сям'ю.

***

...Ідзе сучасны ўрок гісторыі. Настаўнік апавядае вучням, на сталах перад якімі старыя падручнікі:

— Партыя — гэта вучні, што ўвесь час сядзяць за партамі спраўна і на словах робяць справу. Але шмат, дзеці, у нашым апараце і другагоднікаў, якія, як некалі ў школе, і цяпер не жадаюць вучыцца...

***

Душы людскія таксама халодныя, нібы зіма без снегу. Душы халодныя таму, што ў людзей у жыцці было і ёсць так мала цёплых педагогаў.

Браткі, тонем духоўна і эканамічна! І не выратуе, калі не апомнімся і натопленае на зіму масла, якім адна грамадзянка Віцебска напоўніла цэлую ванну, — і гандлявала ім па спекулятыўнай цане. І дзе ўзяла столькі?

***

Бутэрброды нашых ведаў зусім не будуць падаць, калі ў школах, як і раней, будзе вінегрэт ведаў, а на прылаўках не ўбачыш хлеба. Убачыш яго толькі ў спекулянтаў.

Тады і масла, натопленае на зіму, без хлеба не спатрэбіцца.

К. КАРНЯЛЮК.

## *Навіны народнай адукацыі*

### БАСТАВАЦЬ! МАЕЦЕ ПРАВА

Як ставяцца амерыканцы да барацьбы школьных педагогаў за свае правы? Аказваецца, 61 працэнт з іх нічога не мае супраць забастовак настаўнікаў. Цікава, што ў 1978 годзе гэта лічба была толькі 50 працэнтаў.

### А ЯК ХОЧАЦЦА БЫЦЬ ПРЫГОЖЫМІ...

У Маскве створаны пакуль адзіны ў краіне ліцэй іміджа. Аэробіка, дыхальная гімнастыка, ушу, культура размовы і этыка — гэтыя заняткі зробяць жанчын прывабнымі і абаяльнымі. Да паслуг слухачак—трэнажоры, масаж, сауна, басейны, атэлье, з імі займаюцца псіхолагі, дыетолагі, касметолагі і цырульнікі. Захапляюча? А створана ўсё гэта для сцюардэс, манекеншчыц, афіцыянтаў, менеджэраў. Але хіба настаўніку не трэба быць падцягнутым, прывабным, упэўненым?!

### АТАМАНСКАЯ НАРАДА — ВЫХАВАЛЬНІЦА

«Усыпаць бізуна» — такое пакаранне хлопцам, якія пакрыўдзілі слабейшых, загадаў у прысутнасці інспектара дзіцячага пакоя міліцыі і бацькоў казачы круг Гарачаводскага пасёлка Пяцігорска. І прывёў свой прысуд у выкананне...

Функцыі «выхаваўчых» устаноў — дзіцячага пакоя міліцыі, школы і г. д. — у Пяцігорску забіраюць у свае надзейныя рукі казакі. Атаманская нарада тут прымае самастойныя рашэнні па «выкараненню пэўных беззаконнасцей».

### БЯСКРОЎНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ

У маскоўскай спецыяльнай школе № 45 зніклі... бюсты, партрэты У. І. Леніна, іншая сімволіка, звязаная з КПСС. Педагагічны калектыў палічыў, што навучальная ўстанова не павінна быць палітызаванай. А пад густой фіялетавай фарбай назаўсёды зніклі ад вучнёўскіх вачэй лозунгі аб сацыялістычным выбары народа.

Гэтым скончылася бяскроўная рэвалюцыя ў маскоўскай школе. А што ж адкажуць у беларускіх навучальных установах?

А. СТРЭХАВА.

*У свеце мастацтва*

# Сонечны зайчык у акне

— Хлопцы, дзе тут майстэрня мастака? — спытала ў падлеткаў, што на лядку ля дзевяціпавярховага гмаха ганялі шайбу.

— Разьбяра? Дзядзькі Рамана? — перапытаў віхрасты хлопчык.

— Так, Рамана Якаўлевіча Іванчанкі.

— То я праводжу.

Па дарозе разгаварыліся.

— Дзядзька Раман з восемдзесят чацвёртай. Ён нейкі дзіўны такі: усё ў майстэрні ды ў майстэрні. На папу Карлу падобны, які з казкі пра Бураціна. І барада такая ж. У школу іду — стругае, са школы вяртаюся — стругае. Нейкі зусім не такі, як усе нашы суседзі. Раней я нават баяўся яго — гэта з-за барады. З выгляду суровы, сярдзіты, а на самай справе вельмі, вельмі добры, спагадлівы.

Пакуль дайшлі да тых прывабных, карункавых дзвярэй, я ведала, што завуць хлапчука Андрэйкам, што ён часта сочыць за работай Рамана Якаўлевіча праз акенца майстэрні. Андрэйка ведае, што работы дзядзькі Рамана захоўваюцца і ўпрыгожваюць не толькі магілёўскія музеі, але і музеі Германіі, Англіі — ад бацькоў чуў. А яшчэ паведамляў хлопчык, што таму-сяму не падабаецца, што працуе ў гэтым падвале майстар і дзень і ноч, маўляў, шуміць, адпачываць перашкаджае. Ходзяць, просяць, каб закрылі ягоную майстэрню.

«Несправядліва гэта, калі забяруць у дзядзькі Рамана яго майстэрню», — прыгадаліся словы Андрэйкі, калі ўжо, утульна ўладкаваўшыся ў старым крэсле, сачыла за работай мастака, ці, як сказаў Андрэй, разьбяра. Я прыставала з роспытамі, а ён усё працаваў. Я хвалявалася, што замінаю яму засяродзіцца, але ён супакоіў: маўляў, пагаварыць нават прыемна. Увесь час адзін ды адзін. З гэтай нагоды нават сабачанё завёў, каб было каму слова сказаць. Тое самае сабачанё, што імкнулася ўвесь час ухапіць мяне то за руку, то за крысо курткі... Вясёлае, калматае, смешнае...

Сачу за Раманам Якаўлевічам і дзіву даюся: так хутка і ўпэўнена ходзіць у яго руках стамеска. І быццам не стамескай дакранаецца ён да дрэва — душой, сэрцам. А справу сваю дык і з заплюшчанымі вачыма, здаецца, рабіў бы. Вось так звычайная драўляная калода ператвараецца на вачах у дзівосную фігуру... Гэта для музея Раман Якаўлевіч робіць рыбачку. Усіх будзе шэсць, а пакуль вось гэтыя чатыры. Ну як жывыя! Усмешлівыя вочы агеньчыкамі гараць. Яго дрэва нават міміку здольна перадаць.

У майстэрню завітала жонка мастака — Галіна Платонаўна. А ён называе яе проста Галькай... І гучыць гэтае «Галька» з яго вуснаў, як подых маладосці, як давер самаму дарагому чалавеку... Гэта ў яго характары, і яна не крыўдуе. Яна, Галька, звязала з ім некалі лёс, зусім не разлічваючы на яго славу і добрыя заробкі. Проста ў той час у яго не было ні таго, ні другога. Яна, Галька, нарадзіла і выгадавала яму траіх дзяцей. У тым, што Раман Якаўлевіч вядомы таленавіты майстар, — заслуга і яе, Галькі, Галіны Платонаўны, для якой, бадай, прывычна, калі муж раптам падхопліваецца пасярод ночы і спяшаецца ў майстэрню. Прывычна і зразумела. Значыць, не дае спакою новая задумка, новы вобраз. І трэба занатаваць, пакуль не згасла, жыве фантазія. Часам яна сварыцца, калі зноў і зноў не дачакаецца гаспадара абедаць ці вячэраць, калі ў чарговы раз за бясцэнак аддасць работу, над якой чараваў не адну ноч... Вось і сярэдні сын Леанід увесь у бацьку, таксама захапіўся рамяством — дрэвам, таксама пра ўсё забывае, не адарвеш ад стамескі. Гэта ўжо, відаць, спадчыннае. Шмат іншых вучняў у Рамана Якаўлевіча, толькі не ў кожнага хапае цярпення, вытрымкі, а, мабыць, і чагосьці большага, каб спасцігаць таямніцы, пераняць, навучыцца, самастойна ствараць. Вось тады і нервуецца, не можа схаваць трывогу майстар, бо сам халтуру ніколі не рабіў і вучням сваім дараваць паспешлівасці, абыякавасці не можа.

І ўсё ж самая дарагая для Рамана Якаўлевіча работа — гэта ягоная дача. Не будыніна — казачны карункавы церам! Грацыёзны бусел на даху, гарманіст над верандай, фігурныя апорныя слупы, сонейка пад ганкам, розныя франтоны, дзіўныя каралеўскія дзверы. Папрасіцца ў дзядзькі Рамана на дачу мне раіў усё той жа хлапчук Андрэйка, што жыве з майстрам па суседству.

Сапраўды, убачыўшы гэты цуд-церам (інакш проста назваць яго не магу), яшчэ раз пераканалася, што рукі майстра залатыя. Вялізныя разныя куфры, на якіх адлюстраваны вясковыя сцэнкі, пейзажы... Адлюстраваны з гумарам і любоўю. Уся хатняя мэбля зроблена яго рукамі.

— Рабіў для сябе, а паглядзець не толькі прыходзяць суседзі-дачнікі, прыязджаюць экскурсіі на аўтобусах, іншы раз з далёкіх абласцей... Аднекуль жа пачулі, — смяецца Раман Якаўлевіч.

— Раман Якаўлевіч, колькі гадоў спатрэбілася, каб зрабіць такую казку? — пацікавілася ў гаспадара, маючы на ўвазе гэтую дачу-музей, сапраўдны твор народнага мастацтва.

І ён адказаў, што зрабіў усё за чатыры гады. А калі ўлічыць, што папярэднічалі гэтым гадам столькі бяссонных начэй, калі набіваў майстар руку, авалодаў спачатку рамяством, потым мастацтвам...

Раман Якаўлевіч расказваў, як калісьці захапляўся жывапісам, потым чаканкай, займаўся і ганчарнай справай, як жартам заўважыў, быў гаршэчнікам. Расказваў, як паспрабаваў выразаць нешта з дрэва і знайшоў сябе, знайшоў свой «алмаз» — ім аказалася дрэва — і зрабіў канчатковы выбар. Дрэва і толькі дрэва! Сапраўды, яго работы з дрэва алмазаў каштуюць. Толькі ці мае кошт сонейка, зоркі, неба! Мабыць, так і яго майстэрства. Але ж само нічога не давалася, як і не даецца мастаку сёння, калі ўменне не пазычаць. Назіраючы жыццё не праз ружовыя акуляры, ён зрабіў выбар, навучыўся вымяраць каштоўнасці не аднадзённымі вартасцямі.

Таму так даражыць ён кожнай хвілінкай, таму ў першую чаргу выконвае заказы музеяў, дзіцячых садоў, упрыгожвае сваімі творамі дамы адпачынку, санаторыі. Усё гэта для людзей, а Раман Якаўлевіч пераканаы, што самая вялікая каштоўнасць на зямлі — чалавек.

Сапраўды, хтосьці лічыць яго дзіваком — трэба ж, няма калі чалавеку нават пра адпачынак падумаць. А ён не можа дараваць сабе такой раскошы, каб справа чакала. Хочацца паспець адно, другое, трэцяе...

Я не стала пытацца ў Рамана Якаўлевіча пра складанасці з майстэрняй, аб чым даведалася ад Андрэйкі. Можа яшчэ ўсё само сабой уладкуецца. Ну, не можа таго быць, каб малы разумеў, што без майстэрні гэтай не зробіць для нас з вамі дзядзька Раман сваіх чароўных работ, а мы, дарослыя, таго зразумець былі б не здольныя?

Можна доўга гаварыць пра яго напрацаваныя, мазолістыя рукі, задуменныя вочы і гарачую кроў... Можна гаварыць пра тыя нягоды, што выпалі на жыццё майстра: ніколі не бачыў бацькоў, не ведае, хто яны, гадаваўся ў дзіцячым доме. Было і яшчэ шмат такога, што можна калі і параўнаць, дык хіба што з пеклам. Вось дык пакруціўся, як на патэльні. Толькі ж застаўся жывы, вытрываў ва ўсёй гэтай кругаверці. Але ці варта пра гэта, калі яго драўляная фігурка запрашае ўсміхнуцца, калі ў шкле акна зіхаціць сонечны зайчык.

Л. АНОШКІНА.



НА ЗДЫМКУ: Раман Якаўлевіч ІВАНЧАНКА.

Фота А. Марушэўскага.

Магілёўская вобласць.

*З крыніц народных*

# Запрашаем на талаку

**Напэўна, яшчэ з глыбокай старажытнасці рэшткі першабытна-абшчыннага калектывізму з'явіліся вытокам шырока вядомай у беларусаў традыцыі бясплатнай узаемадапамогі — талакі. Нават яшчэ ў наш час вясковыя старажылы памятаюць пра гэту з'яву.**

ТАЛАКОЙ ВЫКОНВАЛІ звычайна працаёмкія і тэрміновыя гаспадарчыя работы. На працу запрашалі толькі на адзін дзень сваякоў, сяброў, суседзяў. Адпаведна з народным звычаем, нельга было адмовіцца ад запрашэння на талаку. Такіх выпадкаў, відаць, і не было, аднавяскоўцы ахвотна дапамагалі адзін аднаму, нават маглі пакрыўдзіцца, калі іх не запрасілі. Па-першае, кожны спадзяваўся на талаку ў адказ, па-другое, яна ўяўляла своеасаблівае свята працы, дзе можна было добра пачаставацца, паспяваць, пажартаваць, патанцаваць. Рытуальны змест талакі яскрава адлюстроўваў гуманістычную аснову народнай этыкі і маралі: узаемную дапамогу і перш за ўсё тым, хто найбольш адчуваў у гэтым патрэбу: пагарэльцам, салдаткам, удовам. У цяжкія часы прыгоннага права памешчыкі злоўжывалі бяспраўнасцю сялян і практыкавалі прымусовую талаку. Звыш 3—6 дзён паншчыны з кожнага двара ў тыдзень сяляне абавязаны былі выконваць некалькі разоў у год так званыя «згоны».

Цэлы тыдзень на паншчыне.

Талака ў суботу, — сведчыць беларуская народная песня. «Прасіў пан на талаку, а не пойдзеш — за лоб павалаку», — гаворыць народная прымаўка.

Талака была мужчынская, жаночая і сумесная. Мужчыны вывозілі бярвёны з лесу, рубілі хату, звозілі хлеб з поля, касілі сена. Рамеснікі-ганчары (у вёсцы Гарадная каля Століна і інш.) талакою рабілі горны для абпальвання гліњянага посуду. Жанчыны дажыналі жыта, выбіралі лён, стрыглі авечак, валялі сукно. На сумесных работах вывозілі гной на поле, малацілі, выбіралі бульбу.

Існаваў пэўны талочны рытуал, які прадугледжваў распарадак дня, талочныя стравы і песні. Сяляне прытрымліваліся і некаторых магічных прыкмет. У дзень талакі, як і ўвогуле на святы, гаспадар ніколі не даваў нікому агню, каб жывёла не патравіла летам жыта і каб ніва не пацярпела ад засухі. На талаку гаспадар запрашаў напярэдадні вечарам і пры гэтым абяцаў добры пачастунак. Раніцай збіраліся талачане і пасля частавання прымаліся за работу. Працавалі да захаду сонца, харчаваліся 2—3 разы. Гатаваліся лепшыя стравы, але абавязковымі былі аўсяны кісель, клёцкі, каша. Калектыўнае частаванне рабілі на вольным паветры.

Найбольш мнагалюднай і ажыўленай была «гнойная» талака для вывазкі гною на папарнае поле пад азімае жыта ў другой палавіне ліпеня. Вось як апісваецца гнойная талака ў «Матэрыялах» П. В. Шэйна. На золку прыязджалі суседзі цэлымі сем'ямі і пасля закусвання дружна прымаліся за работу. Дарослыя мужчыны («капачы») выграбалі сахорам, двухрогімі драўлянымі віламі з акутымі рожкамі гной з хлява і накідвалі на вазы. «Возчыкі» (хлопчыкі і падлеткі) вывозілі гной на поле, жанчыны раскідвалі яго па ніве. І ў полі, і ў хлявах, і на дварах — усюды гоман, рух, ажыўленая гаворка, смех,



песні. Змест песень — звычайна ўхваленне або ганьбаванне гаспадара, гледзячы на тое, шчодра ці скупа ён частуе. У Лепельскім павеце спявалі:

> **А, знаць, наш бацюшка**
> **багата жывець,**
> **Яго талака далёка слывець,**
> **Паплаціш, бацюшка,**
> **талачаначкам.**
> **Маладым дзевачкам**
> **па чырвончыку,**
> **Маладым вожтайкам**
> **па рубельчыку,**
> **А сваім кідачом паддай**
> **гарбачом:**
> **За імі конікі настаяліся,**
> **Малыя вожтайкі нагуляліся,**
> **У поле жоначкі напяяліся.**

У адной з песень з Мсціслаўскага павета адчуваецца не толькі напамін аб частаванні, але і пэўная спагада не вельмі заможнаму селяніну:

> **Столікі мае вы цясовенькія,**
> **Чаго вы стаіцё не**
> **засцеленыя,**
> **Алі хлебушка пушон,**
> **Алі гаспадар не вясёл.**

Мужчыны больш суправаджалі сваю працу расказамі, успамінамі, жартамі. «З Пятрова дня ў полі пожня», пачыналася касьба. Селянін спяшаўся хутчэй скончыць сенакос у сухое надвор'е і да жніва, таму часта касьбу рабілі талакою. Касцы спявалі:

> **Касцы косяць,**
> **Бога просяць:**
> **Дай, божа, пагоданьку**
> **На нашу работаньку,**
> **Сена пакасіці,**
> **Дадому звазіці.**

У некаторых месцах Гродзеншчыны існаваў такі звычай. Калі на сенажаць прыходзіў гаспадар, касцы звязвалі яго вяроўкай, звітай з сена, і патрабавалі сімвалічны выкуп некалькімі капейкамі. Рытуал суправаджаўся песнямі:

> **Ох, іславен, славен наш**
> **гаспадар!**
> **Ох, чым жа ён праславіўся?**
> **Ці сваім гумном, ці сваім**
> **дабром,**
> **Ці сваёй жаной, ці сваімі**
> **дзеткамі?**
> **Не праславіўся ён нічым,**
> **толькі гумном.**

Заўсёды весела, святочна, маляўніча адбывалася дажыначная талака. Захавалася шмат дажыначных талочных песень. Вось урывак з адной, якая была вядома ў Дзісненскім павеце:

> **Ці наша доля такая,**
> **Наша гаспадынька скупая.**
> **Ды што к нам на ніўку**
> **не ходзіць,**
> **Ні сыру, ні масла не носіць.**
> **Ды сталі жоначкі ёй пеняці,**
> **Дык стала на ніўку хадзіці,**
> **Стала сыр і масла насіці.**

Стрыжка авечак таксама рабілася калектыўна. Пасля мыцця жывёлу выганялі на пашу абсушыцца і ў гэты час гатавалі абед. Пасля абеду жанчыны адлоўлівалі кожная сваю авечку і стрыглі іх на агульным двары. У час работы спявалі:

> **Ды баранька чорненькі,**
> **Ды на ім воўна сучыцца,**
> **Нам гарэлкі хочыцца.**
> **Гаспадару несці маркотна,**
> **А нам піці ахвотна.**

Заканчэнне стрыжкі адзначалася ўрачыстай вячэрай як спецыфічнае свята «ўраджаю воўны». Бытавала павер'е, што воўну трэба «замачыць», каб была мяккай.

У савецкі час у сувязі са скарачэннем аб'ёму работ у асабістых сялянскіх гаспадарках талака фактычна не існуе, хаця некаторыя яе рысы назіраюцца ў вёсках і цяпер (у прыватнасці, пры пабудове хаты). Гуманны сэнс мудрай народнай традыцыі — бескарыслівая праца, дапамога слабаму і да т. п. — мае вечнае значэнне. Як не ўспомніць аб гэтым у наш складаны, стрэсавы час?

Ніна БУРАКОЎСКАЯ,
кандыдат гістарычных навук.

# МІРСКІ ЗАМАК



Высачэзныя вежы, сцены з чырвонай цэглы, ад якіх вее сівой даўнінай,— такім паўстае перад наведвальнікамі гэты замак. Князь Юрый Ільінскі пры ўзвядзенні яго паклапаціўся не толькі аб непрыступнасці сваёй рэзідэнцыі, але і аб яе прыгажосці. Пазней былі ў яго розныя гаспадары — Радзівілы, Гагэнлоэ, Вітгенштэйны, Святаполк-Мірскія. Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў яго вежах і палацы жылі гараджане, а апошнія некалькі дзесяцігоддзяў упадарамі яго сталі рэстаўратары. Замакператварыўся ў чарговы даўгабуд сумнавядомай малашаноўнай установы і сіратліва глядзіць ён цяпер, апрануты напаўспарахнелымі рыштаваннямі, у возера, якое плешчацца амаль ля замшэлых сцен.

*Каменны летапіс стагоддзяў*

# Чырвоны замак смалянскі

**Гісторыкі, дарэчы, сцвярджаюць, што ён быў... белым. І называўся адпаведна — Белы Ковель. Для мяне ж, які нарадзіўся ў Смалянах, некалі вялікім і шумным, слаўным сваімі кірмашамі мястэчку, размешчаным за дваццаць пяць кіламетраў на паўночны захад ад Оршы, каля старой Лепельскай дарогі, ён — чырвоны.**

АД БЫЛОГА, некалі, відаць, велічнага збудавання, сёння захаваліся толькі рэшткі складзенай з чырвонай цэглы пяціяруснай вежы. Калі ж быць зусім дакладным, то, як сказаў бы прафесійны архітэктар, намёкі на адзін з элементаў унутранай планіроўкі, а працей — рэшткі сцен амаль квадратнай вуглавой залы.

Аб тым, што замак — старажытны, мы, местачковыя хлапчукі, неяк не задумваліся. Ён быў прывычным атрыбутам нашага, як мы сёння любім гаварыць, басаногага дзяцінства. Каля гэтых сцен мы збіраліся шумнымі чародкамі, заводзілі гарэзлівыя хлапчукоўскія гульні.

Відаць, мы прывыклі да замка, як прывыкаюць масквічы да храма Васілія Блажэннага або піцерцы да Ісакіеўскага сабора, і іншы раз проста не заўважалі яго ў сваіх паўсядзённых клопатах. Тым больш, што былі ў нашым мястэчку і іншыя не менш выдатныя славутасці... Старажытны касцёл з прыбудовамі (усяго ў некалькі сотнях метраў ад замка) на самым высокім месцы Смалян, у якім тагачасная МТС уладкавала машынны двор... Старая каменная царква з пагнутым, але так і не знятым у свой час мясцовымі атэістамі крыжам на ржавым купале... Тут летнімі вечарамі збіралася моладзь і да трэціх пеўняў скакала пад гармонік...

Былі ў мястэчку і двое старых, напаўзакінутых могілак — польскія і яўрэйскія. Найвышэйшым геройствам сярод местачковых хлопцаў лічылася пайсці ноччу на адны з іх і прыцягнуць адтуль букет бэзу. Такога — пышнага і духмянага—не было ні ў адным кветніку нашага мястэчка...

Дзеля праўды трэба было сказаць, што пра замак расказвалі і розныя страшныя гісторыі і легенды. Быццам у месячныя ночы бачылі людзі на яго сценах здань — прыгожую маладую жанчыну з сінім тварам. Або што ў падвалах замка закапаны незлічоныя скарбы ці то польскай каралевы, ці то шведскага караля (мы з хлопцамі, прызнаюся, капалі дзірван пад сценамі, але, акрамя кавалкаў цэглы, так нічога і не знайшлі).

Казалі яшчэ, што ад замка да касцёла вядзе патаемны падземны ход. Знаходзіліся быццам раней сарвігаловы, што спрабавалі лазіць туды, але толькі іх і бачылі: згінулі ў смуродных падзямеллях сярод страшных шкілетаў...

Праўда, мы, хоць і былі дзецьмі, у казкі гэтыя не вельмі і верылі... Замак і замак... Нічога асаблівага...

І толькі праз шмат гадоў, калі ўжо вучыўся ва ўніверсітэце і пачаў з розных крыніц (часопісаў, газет, кніг) збіраць усё, што датычыцца Смалян, і занатоўваць у сшытак, даведаўся я, што за чырвонымі сценамі смалянскага замка — вякі і лёсы многіх людзей, рускіх і беларусаў, палякаў і шведаў, што з замкам гэтым звязаны імёны каралёў і каралеў, цароў і князёў, што я, без усялякага перабольшвання, магу ганарыцца тым, што нарадзіўся ў Смалянах...

У трэцім томе выдадзенай у 1863 годзе ў Санкт-Пецярбургу працы «Гарадскія паселішчы Расійскай імперыі» даследчыкамі знойдзены такія радкі: «Калі збег ад Івана Грознага ў Літву князь Курбскі, то Сігізмунд-Аўгуст (тагачасны польскі кароль—**С. А.**) аддаў Смаляны яму, але, не жадаючы жыць паблізу рускай граніцы, Курбскі абмяняў Смаляны ў Сангушкі на валынскі горад Ковель. Пазней тут жыла каралева Бона, замак якой быў разбураны рускімі войскамі ў 1708 годзе пасля бітвы са шведамі».

Гэта адна з версій з'яўлення замка ў Смалянах як рэзідэнцыі польскай каралевы.

Уніклівыя даследчыкі, аднак, знайшлі ў гэтым сцвярджэнні недакладнасць. І яны, трэба прызнаць, маюць на сваё сумненні права. Вядома, што каралева Бона памерла ў 1557 годзе, г. зн. за шэсць гадоў да таго, як князь Курбскі, прадаўшы сваю Айчыну, збег у Літву. Да таго ж ёсць звесткі, што Курбскі зусім і не ўступаў у валоданне Смалянамі, адразу ж атрымаўшы ад польскага караля Ковель з воласцю.



Такім чынам, з гэтага вынікае, што ні князь Курбскі, ні каралева Бона да смалянскага замка дачынення не маюць. Хто ж тады?

Самы ранні дакумент, у якім упамінаюцца Смаляны, як стала вядома, датаваны 1484 годам і прыводзіцца ў «Архівах князёў Сангушкаў» (Львоў, 1887 г.). Там гаворыцца, што Вялікі князь Казімір (кіраўнік Вялікага княства Літоўскага.— **С. А.**) аддаў Смаляны князю Сямёну Іванавічу Бельскаму.

З 1501 года Смалянамі валодае жонка Вялікага князя Аляксандра Алена.

У 1522 годзе Смаляны атрымліваюць ва ўладанне князь Канстанцін Астрожскі і сын яго Ілья, а пасля смерці бацькі (1530 г.) і сына (1539 г.) Смаляны зноў адыходзяць да вялікакняжацкіх маёнткаў.

З сярэдзіны XVI стагоддзя гісторыя Смалян звязана з Ковельскім адгалінаваннем славутага роду Любартавічаў-Сангушкаў. З 1543 г. імі валодаў Васіль Міхайлавіч Сангушка-Ковельскі.

Але ні ў XV, ні ў XVI стагоддзях, як лічаць даследчыкі, замка ў Смалянах яшчэ не было. З'яўленне яго гісторыкі звязваюць з імем князя Сямёна Андрэевіча Сангушкі, праўнука Васіля Міхайлавіча.

Князь Сямён, паводле некаторых меркаванняў, нарадзіўся паміж 1576 і 1585 гадамі. Ёсць звесткі, што ён яшчэ ў маладыя гады ўдзельнічаў у вялікай бітве пад Кукенгаўзенам, дзе ў 1601 г. Карл Хадкевіч разбіў шведскае войска.

Дзяржаўная кар'ера князя бярэ свой адлік з 1620 г., калі ён стаў маршалкам аршанскім. Пасля князь Сямён быў кашталянам мсціслаўскім, віцебскім, а ў 1626 г. заняў пасаду віцебскага ваяводы. На гэтай пасадзе ён і памёр у 1638 годзе.

Даты жыцця і смерці Сямёна Сангушкі маюць для нас вялікае значэнне, таму што гісторыкі прыводзяць радкі з «Гербарыя польскага» К. Нясецкага (Ліпск, 1841 г.), дзе гаворыцца, што менавіта ён, Сямён, «замак і палац пад Смалянамі, Белы Ковель, вялікім коштам пабудаваў».

У дакладной князя Сямёна, выдадзенай ім у 1526 годзе (гісторыкі знайшлі яе ў зборніку «Гісторыка-юрыдычныя дакументы...», Віцебск, 1891 г.), сказана наступнае: «...маёнтка майго Смалян Белага Ковеля, што ляжыць у павеце Аршанскім».

Адсюль — найбольш верагодная дата ўзвядзення замка ў Смалянах— першая палова 20-х гадоў XVII стагоддзя, гэта значыць, што яму прыкладна 370 гадоў.

У часы польска-літоўскіх войнаў сярэдзіны XVII ст. замак, відаць, асабліва не пацярпеў, таму што ў акце 1680 г. знойдзены запіс: «Гіеранім Любартавіч Сангушка... на Белым Коўлю князь...». І далей: «...вуліца Замкавая... ад замка ісці ў рынак, па левай руцэ» (на гэтай вуліцы я, дарэчы, нарадзіўся.—**С.А.**).

Вайна Пятра І са шведамі, відаць, таксама зліталася над замкам (хоць некаторыя гісторыкі лічаць, што якраз тады ён і быў разбураны).

Вядомы савецкі гісторык Я. В. Тарле ў свой час пісаў: «...у Смалянах нечакана быў атакаваны генерал-ад'ютант Карл (шведскага караля Карла XII.— **С. А.**) генерал Каніфер, яго схова была разгромлена, а сам ён узяты ў палон казакамі і 3 жніўня 1708 года дастаўлены да Пятра І у Горкі» (цяпер горад ў Магілёўскай вобласці. —**С. А.**).

Мала верагодна, што замак разбурылі рускія войскі, таму што гісторыкі знайшлі дакумент 1743 года, з якога вынікае, што ў той час ён быў цэлым.

Хутчэй за ўсё, што смалянскі замак разбурылі ў першай палове XIX стагоддзя. У «Магілёўскіх ведамасцях» знойдзена паведамленне аб тым, што нейкі сенатар Сямёнаў, які валодаў Смалянамі, яшчэ ў 1860 годзе прадаваў сцены замка, каб здабываць цэглу.

Хто канкрэтна зруйнаваў замак? На жаль, пакуль што цвёрдага адказу на гэта пытанне няма. Магчыма (але гэта, зразумела, толькі версія), што «рашаючую кропку» ў яго лёсе паставіла Айчынная вайна 1812 года, пасля чаго, відаць, і пачалося канчатковае згасанне гэтага «феадальнага гнязда»...

Але як бы там ні было, аб былой велічы князёў Сангушкаў цяпер напамінаюць толькі руіны вежы з чырвонай цэглы, якую па даўняй звычцы мясцовыя жыхары і сёння называюць «замкам»...

Для мяне ж «чырвоны замак смалянскі» — гэта не толькі легенды пра каралёў і князёў ці радкі з даследаванняў гісторыкаў, але яшчэ і салодкашчымлівыя ўспаміны пра далёкае дзяцінства, якога, на жаль, ужо не вярнуць, як, відаць, ніколі не адрадзіць з руін і старажытны замак.

Шкада, што час і людзі не злітаваліся над ім. Няхай жа руіны яго будуць нам напамінаць аб тым, што замкі — і не толькі замкі, якім насуперак часу ўдалося выстаяць (а яны, на шчасце, яшчэ ёсць на Беларусі, праўда, іх вельмі мала), мы павінны зберагчы для тых, хто зменіць нас на гэтай зямлі.

**Святаслаў АСІНОЎСКІ,**
**ваенны журналіст.**

*Азірніся!*



**Зноў узняліся над Магілёвам залачоныя купалы храма Трох Святых, у якім апошнія гады размяшчаўся ДК завода «Строммашына».**

**Пасля перадачы збудавання праваслаўнай царкве за справу ўзяліся не толькі будаўнікі, але і архітэктары-рэстаўратары. Аднавіць ранейшае аблічча гэтага помніка архітэктуры ўдалося і дзякуючы дапамозе малога прадпрыемства НВА «Магілёўтэхнамаш», якое забяспечыла напыленне медных пласцін для пакрыцця дзевяці купалаў.**

**Рэстаўрацыя вядзецца гасразліковым спосабам за кошт царквы. І, нягледзячы на тое, што работы яшчэ не скончаны, храм, у якім ужо ідуць службы, уражвае сваіх парафіян велічу і прыгажосцю ліній, духоўнасцю, якіх нам усім так не хапае сёння.**

**НА ЗДЫМКУ:** завяршаецца рэстаўрацыя цэнтральнага храма Трох Святых.
Фота БЕЛТА.



# Экалогія «рок-культуры»

(Заканчэнне. Пачатак у № 21).

Аддаючы сваю ўвагу, чалавек нябачна становіцца ў шматмільённы біяэнергетычны і інфармацыйна-музычны ланцужок. Ён аказваецца ў ім няхай не актыўным членам, але праваднікам і ўдзельнікам. А гэтага дастаткова, каб аказаць уздзеянне на душу і цела. Для некаторых — на разум і на цела. Пасля гэтага можа з'явіцца «прыўзняты, аптымістычны настрой» і «цудоўнае пачуццё балдзяжу». Яно часта адбываецца за кошт пераразмеркавання энергіі ў самім чалавеку. Услед за гэтым сцвярджаецца і вера ў сілу і абаяльнасць той або іншай рок-зоркі, наркатычная залежнасць ад яе. Рашучасць цвёрда браць прыклад з яе ва ўсім, а часам нават сапраўдная «апантанасць», рок-фанатызм.

Сістэма масавых унушэнняў не новая. Мы добра знаёмы з ёй у форме ўнушэнняў ідэалагічных. Прыпраўленыя абяцаннямі ўсялякіх магчымых і немагчымых даброт, гэтыя ўнушэнні былі прычынай вядомых трагедый у гісторыі нашых краін. Вынікі апантанасці лжывымі думкамі ў нас перад вачыма. Цяпер жа гаворка ідзе пра новую сістэму рок-энданаркатычных (рок-гіпнанаркатычных), псіхалагічна-акультных унушэнняў. Гэта сістэма рок-музычнага і інфармацыйнага біяэнергетычнага ўздзеяння і псіхацыду, экацыду і генацыду.

Чалавечая душа, яго воля недасягаемыя для ўздзеяння волі другога чалавека. У гэтым — вялікі дар свабоднай, незалежнай волі. Калі чалавек добраахвотна паддаецца моцнаму музычнаму або псіхічнаму ўздзеянню з боку рок-музыкі або рок-зоркі, то паступова тая, вобразна кажучы, духоўная перашкода, якая ахоўвае розум, сэрца і душу ад непасрэднага ўплыву чужой волі, разбураецца. Чалавек становіцца даступным музычнаму, псіхічнаму, валявому ўздзеянню іншай чалавечай асобы. Такому ўздзеянню, аб якім сам чалавек, асабліва малады, можа і не падазраваць! Нават «нявінны» рок-канцэрт або рок-выканаўца можа разбурыць гэтыя ахоўныя механізмы, а таксама галіны духоўнай структуры чалавека. Не гаворачы ўжо пра больш моцныя музычныя ўздзеянні і таямнічыя ўнушэнні, аб «праграміраванні» свядомасці і паводзін людзей, аб іх «каардынаванні» пры дапамозе сучаснай музыкі (рок-музыкі, Сусвету або Касмічнай музыкі), розных сінтэзатараў, тэхнічных і электронных прылад.

Навуковымі даследаваннямі ўжо даказана, што левае паўшар'е мозга чалавека фарміруе любую інфармацыю ў адназначным і лінейным (ад мінулага да будучага) кантэксце. А правае паўшар'е — у мнагазначным кантэксце, які не паддаецца адназначнай інтэрпрэтацыі пры дапамозе слоў або музыкі.

Асабліва трэба вылучыць і падкрэсліць эксперыментальны факт, што пры падаўленні левага паўшар'я і пры актывізацыі правага значна аблягчаецца тэлепатычны кантакт і падсвядомае ўзаемадзеянне, сугестыўны і гіпнатычны ўплыў. Гэта мае месца, напрыклад, у час рок-шоу. Бо тады не проста гучаць рок-рытмы, але маюць месца самыя разнастайныя колера-святла-музычныя і іншыя эфекты (дым, туман, дождж, снег і г. д.). У выніку такога комплекснага і масіраванага ўздзеяння на зрок, слых і псіхіку чалавека больш за ўсё актывізуюцца наступныя падкоркавыя цэнтры галаўнога мозга: чулліва-эмацыянальнага і вобразнага ўспрыняцця, фантазіі і інтуіцыі, рок-рытму, сімфоніі разбурэння.

Дакладна праяўляецца і назіраецца таксама наступная заканамернасць. Несвядомы ўзровень адлюстравання рэчаіснасці і музычнага ўплыву з'яўляецца сінтэзам канкрэтна-вобразнага ўспрыняцця, чулліва-эмацыянальных уяўленняў, паняццяў і меркаванняў. Таму я дапускаю, што роля зрокавай і слыхавой сістэм больш фундаментальная, чым прыём той або іншай інфармацыі. Яна прама звязана з асноўным ключом да ўсіх рэзерваў чалавека — вера як асаблівы чулліва-эмацыянальны і псіхічны стан. У гэтым сэнсе мы можам гаварыць пра комплексны музычна-моўны цэнтр чалавечага мозга. Ён вельмі дакладна рэагуе на розныя рэзанансныя і музычныя з'явы, на свядомыя моўныя сігналы. Але гэты ж цэнтр блакіруецца, калі гучаць манатонныя, аднастайныя і моцныя рок-рытмы і так званыя фразы-кувалды. Амаль усе рок-оперы і песні ў стылі рок напісаны і будуюцца на фразах-кувалдах.

Цікавыя вынікі атрымалі і псіхолагі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Сур'ёзны аналіз атрыманых імі вынікаў, сацыяльна-псіхалагічных тэстаў і самаправаздач даў магчымасць спецыялістам з горада Мінска зрабіць аргументаваныя вывады, што дзеянні пасля праслухоўвання рок- і дыска-музыкі звязаны са значнымі псіха-фізіялагічнымі рэакцыямі і адхіленнямі. Канкрэтна — гэта праяўлялася: у значным зніжэнні пісьмовай прадуктыўнасці і тармажэнні асацыятыўнай дзейнасці. Паддоследныя прама ўказвалі на нежаданне пра што-небудзь думаць. Аб гэтым сведчаць адсутнасць эмацыянальнай складаючай у 63 працэнтах выпадкаў, зніжэнне ўзроўню паняційнага абагульнення да канкрэтна-бытавых паняццяў, звужэнне кола паняційнай змястоўнасці асацыяцый, што праявілася ў яркай стэрэатыпіі іх, у стымуляцыі жадання рухацца або ў з'яўленні адчування руху і рухальных асацыяцый. Адчуванне цяпла, лёгкасці цела, матывацыі да творчай дзейнасці, гэтак жа, як і ўзнікненне пачуцця пяшчоты, дабрыні не выяўлена. У 20 працэнтах выпадкаў паддоследныя гаварылі аб узнікненні пачуцця раздражнення, суму, трывогі, адзіноты, безнадзейнасці, страху; у 16 працэнтах выпадкаў — аб нястрымнай весялосці, звышвясёлым настроі. Ніжэй прыводзіцца некалькі ўрыўкаў з самасправаздач, напісаных пасля рок- і дыска-музыкі: «Ні аб чым не хочацца думаць», «Думкі некуды зніклі», «Ніякіх адчуванняў. Уяўленне горада, мітусні, руху», «...Усе танцуюць, не заўважаючы вакол сябе нічога, не думаючы ні аб чым», «...Поўная абыякавасць. Усё, усё роўна».

Гэтыя і вынікі іншых навуковых даследаванняў з'явіліся дастатковай падставай, каб назваць, напрыклад, класічныя творы і жанры «музыкай для галавы», а рок — «музыкай для ног». Карацей, больш змястоўна і дакладна немагчыма сказаць.

Рок-музыка ўзнікла як сігнал таго, што не ўсё добра ў грамадстве. Гэта своеасаблівы сігнал «SOS». Моладзь крычыць: ратуйце нашы душы! Ці выпадкова, што Элвіс Прэслі, Джымі Хендрыкс, Джэніс Джоплін, шэраг музыкантаў з групы «Ролінг стоунз», «Ху», «Лед Зэпелін» і іншых загінулі ад наркотыкаў і алкаголю. Іх музыка была сацыяльным надрывам. Як і іх жыццё. Ад таго, што гэты надрыў стаў модай, яго сацыяльны змест не вычарпаў сябе. Сацыяльная дэтэрмінацыя была і застаецца.

Чаму агрэсіўнасць і насілле, антыгуманізм і антысацыяльныя праявы з'яўляюцца асноўнымі рысамі «хард-рока» і «хэві-метал»? Чаму Сатана і Смерць, жахі і кашмары з'яўляюцца асноўнымі «героямі і дзеючымі асобамі» песень і канцэртаў такіх груп? У чым сакрэт іх дэманічнай і разбуральнай сілы, выражанага чалавеканенавісніцтва? Адказ на гэтыя і на іншыя падобныя пытанні мы знаходзім у кнізе з інтрыгуючай і характэрнай назвай «Ці ў парадку нашы дзеці? Рок-пакаленне і яго тайнае жаданне смерці». Аўтар гэтай кнігі амерыканскі публіцыст Дж. Фулер піша пра глыбокія і вельмі сур'ёзныя навуковыя даследаванні Дж. Дайманда — псіхіятра, прэзідэнта Міжнароднай акадэміі прэвентыўнай медыцыны. Ён распрацаваў методыку, якая грунтуецца на тым, што вялікія мышцы цела пры выпрабаванні будуць моцнымі або слабымі ў залежнасці ад таго, шкодным або карысным з'яўляецца знешні або ўнутраны стымул як для арганізма, так і для псіхікі. Гэту методыку Дайманд выкарыстаў для аналізу ўплыву музыкі на псіхіку чалавека. Даследаванні паказалі, што класічная музыка, ранні рок-н-рол, джаз, фальклорная музыка аказваюць на чалавека ўмацоўваючае станоўчае ўздзеянне.

«Хард-рок», «хэві-метал» і дыска-музыка, вызначаная як рок-без-рол», заканамерна і пастаянна прыводзяць да аднаго і таго ж эфекту, г. зн. да значнага паслаблення нервова-мышачнага тонусу. Іншымі словамі, мышцы чалавека, асабліва маладога, не вытрымлівалі тую ж нагрузку, з якой да гэтага лёгка спраўляліся без музыкі. «Вынік быў настолькі ўстойлівы, што Дайманд паставіў мэту — знайсці элемент, які аказвае такое ўздзеянне на чалавека. З дапамогай знаёмых музыкантаў ён прааналізаваў звыш 20 тысяч запісаў і выявіў нарэшце адну з галоўных складаючых, якую ён назваў «прерывающийся анапест бит» (анапест — размер вершаскладання). Гэты элемент характэрны для рока толькі з другой паловы 60-х гадоў і складаецца з двух кароткіх і аднаго доўгага ўдару, — музыка быццам бы спыняецца і пачынаецца зноў. Рок-выканаўцы, якія іграюць на ўдарных, ведаюць гэты рытм інтуітыўна. Дж. Дайманд выявіў, што гэты паслабляючы рытм з усёй відавочнасцю агідны нармальнаму псіхічнаму рытму арганізма. Характэрна, што менавіта гэты від рок-музыкі ў параўнанні з раннім рок-н-ролам амаль выключна асацыіруецца з насіллем і разбурэннем на рок-канцэртах.

«Некалькі джазавых музыкантаў памерлі ў выніку ўжывання наркотыкаў і алкаголю,— гаворыць Дж. Дайманд,— але гэта нішто ў параўнанні са смерцю на рок-сцэне, калі некаторыя з іх паміраюць адзін за адным прама ў іх уласнай ірвоце. Ці можаце вы сабе ўявіць Каскані, Касальса, якія памерлі такім чынам?»

Многія рок-музыканты цудоўна ўсведамляюць сваю ўладу над аўдыторыяй. Як адзначае Фулер, адным з першых, хто зразумеў гэта, быў Дж. Хендрыкс. У адным з інтэрвью ён выказаўся так: «У вас ёсць пэўны гіпнатызуючы рытм. Большасць людзей «здаецца» ў першую мінуту. Вы паўтараеце рытм, скажам, на працягу трох, чатырох або нават пяці мінут, калі можаце, і потым у галаве ў чалавека штосьці адкрываецца. І вы гаворыце тое, што хочаце, у гэту маленькую прабоіну».

Акрамя непасрэднага ўнушэння на рок-канцэртах, існуе магчымасць кіравання па-за непасрэдным кантактам. У псіхіятрыі вядома з'ява постгіпнозу. У стане трансу чалавек можа быць праінструктаваны зрабіць што-небудзь пасля, што можа аказацца зусім абсурдным, непатрэбным, нават небяспечным. Ужо не будучы ў стане трансу, ён адчуе неадольнае прымушэнне ў прызначаны час і будзе дзейнічаць па інструкцыі, сам не ведаючы чаму. Ва ўмовах, калі пад уздзеяннем магутнай стэрэасістэмы малады чалавек на працягу некалькіх гадзін знаходзіцца ў стане «хадзячага трансу», тэкст песень можа мець той жа эфект, што і моцнае паслягіпнатычнае ўнушэнне.

У сувязі з гэтым сапраўды жудасным уяўляецца малюнак масавага гіпнозу на канцэртах груп, якія выконваюць «хэві-метал» або «хард-рок», дзе выканаўцы, узвінчаныя нечалавечым «анапест бітам», прапаведуюць чалавеканенавісніцтва, садызм, культ смерці, сатанізм, агрэсіўнасць і жаданне займацца каханнем.

На маю думку і перакананне, сучасныя кіраўнікі рознага рангу не разумеюць значную дэманічную сілу і асаблівую ўладу, якую зараз набылі над моладдзю ў СССР розныя карпарацыі цяжкага рока і шматлікія рок-групы. Увогуле, нават не акцэнтуючы ўвагу на антыгуманнай сутнасці «металічных» вакханалій, варта падумаць, каму выгадна рок-музыка ў мэтах масавага гіпнозу і постгіпнатычнага праграміравання? Наўрад ці калі-небудзь мы будзем выкарыстоўваць гэты сродак для «ўбівання» ў маладыя галовы «высакародных» ідэй. А вось у рэакцыйных сіл яно заўсёды з'яўлялася магутным інструментам абалваньвання мас. У. Я. Бягун, кандыдат філасофскіх навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права АН БССР, расказваючы пра выяўлены ў архівах курс лекцый па акультызму, чытаных у Петраградзе напярэдадні рэвалюцыі, а потым выдадзеным белаэмігрантамі за мяжой, звярнуў увагу на тое, што для кіравання «натоўпам», выхавання ў людзей слабахарактарнасці, бязвольнасці рэкамендуецца распаўсюджваць у грамадстве забабоны, наркотыкі, алкаголь і спецыяльна падабраную музыку».

У СССР і ўсходне-еўрапейскіх краінах цяпер праводзяцца дзіўныя гібрыдныя канцэрты, дзе эксперыменты па тэлепатыі і гіпнатычнаму ўздзеянню спалучаюцца з духоўным песнапеннем або рок-музыкай. Вось некаторыя канкрэтныя прыклады. 7 красавіка 1991 года — Крамлёўскі Палац з'ездаў: выступленне амерыканскай маладзёжнай вакальна-інструментальнай групы «Канвертыблз» «Евангельскае пасланне праз класічны рок-н-рол»). На гэтым «канцэрце» мела месца масавае гіпнатычнае ўздзеянне. Не толькі маладыя людзі, але і пажылыя «цёткі» і спакойныя «дзядзькі» торгаліся ў рытме музыкі, выконваючы розныя рухі рукамі, нагамі, галавой. Па камандзе яны сінхронна ўставалі і па загаду паўтаралі сказаныя са сцэны словы. Страшнае і жудаснае відовішча. Гэта быў натоўп, які не валодаў сабой. Невыпадкова амерыканцы ўсклікалі і разгублена шматразова паўтаралі: «Абалдзенная публіка! Звар'яцелыя гледачы».

**Т. ДЗІЧАЎ,**
**доктар філасофскіх навук,**
**псіхатэрапеўт.**
**Пераклад з рускай**
**Галіны ДАЎГАВЕСАВАЙ.**

Балгарыя.



*«Мёртвая зона»*

# «Асабліва небяспечны рэцыдывіст»



...Расказваюць, што раней ён жыў у маленькай закінутай хатцы на другім канцы вёскі. Здалёк яе аблічча нагадвае малюнкі разбураных селішчаў з ваенных кніжак: пустымі дзіркамі пазіраюць на свет аконныя і дзвярныя праёмы, разбураны дах, замест падлогі—кавалкі бітай цэглы, смецце, сям-там пасмы леташняй травы. Тут ён пасяліўся, калі апошні раз вярнуўся з турмы. Вокны завесіў кавалкамі поліэтылену, а каб не ляжаць на голай зямлі, выламаў дзверы і спаў на іх, накрываючыся рознымі лахманамі. Спачатку трохі працаваў у калгасе, але нядоўга, хутка кінуў і жыў як прыйдзецца. Без свайго кутка і сям'і, без пенсіі і нават без прапіскі — як прывід: ёсць чалавек — і быццам яго няма.

Часцей за ўсё яго бачылі вясковыя звалкі і сметнікі, дзе брудны касматы стары адшукваў сабе недапалкі, старыя анучы і чаравікі, іншы хлуд — усё гэта нёс дадому і складваў пад вуглом, пакуль не набіралася вялікая куча, і ўчастковы міліцыянер не прымусіў яе закапаць.

***

Ён адчыніў дзверы — і здзіўленне было ўзаемным. Маленькі, хударлявы, зморшчаны, як лістападаўскі паданак,— не, не такім уяўляўся асабліва небяспечны рэцыдывіст з вёскі Лелікава Кобрынскага раёна Мікалай Фёдаравіч Казлей. Назва «снежны чалавек» да яго больш падыходзіць — настолькі дзікае, запушчанае, непрыстасаванае ў яго жыццё.

У маленькай хатцы з адным вузенькім акенцам паветра было цяжкім, затхлым. Па кутках, па сценах, проста са столі звісалі доўгія пасмы павуціння. На выцвілых заплямленых шпалерах прычэплены пакамечаныя паперкі — вокладкі даўніх часопісаў з прыгажунямі. Пасярэдзіне сцяны—саматробны «іканастас». Адзіны ложак з шэрай ад бруду прасцінаю ды наваленымі зверху рызманамі— вось і ўся мэбля.

...Ён мёрз. Сціскаў маленькія маршчыністыя рукі, няёмка пераступаў з нагі на нагу. У хатцы было холадна, не палена, а яго хударлявыя плечы прыкрываў толькі стары світэр. Без чаравікаў і ў шапцы-вушанцы чалавек выглядаў сапраўдным лесуном. Неахайнымі космамі лезлі ў вочы бровы, шчаціннем зарос твар, пазногці такія доўгія, што пачалі ўжо загінацца, як кіпцюры. Не верылася, што там, за дзвярыма, ідзе шырокая асфальтаваная вуліца...

Цяперашняе жытло гэты ягоны жыхар атрымаў нечакана для сябе, калі ў калгас прыйшоў новы гаспадар: тады і купілі Казлею невялікую пустую будыніну за 500 рублёў. І яшчэ адна навіна адбылася ў ягоным жыцці — апошнім часам пачалі плаціць «снежнаму чалавеку» пенсію. Але і дамок, і пенсія, і нават шыльда з нумарам дома — усё гэта як прывід. Як яечная шкарлупіна, аднолькава гожая і ў свежага, і ў сапсаванага яйца, так і тут парадкавы нумар толькі прыкрывае гнілое, спарахнелае нутро.

***

Хто ён, гэты вясковы пустэльнік? Які пітон скруціў ягонае жыццё і ператварыў цела ў анучу?

Нарадзіўся ён у 1923-м. У звычайнай паляшуцкай сям'і. Толькі ён быў незвычайным: малы, худы, дзіклівы. Сёстры таўклі яго, агрызлівага, аднагодкі зневажалі, толькі маці часам шкадавала, ды й то мімаходзь, па-сялянску грубавата. Было гэта, як цяпер кажуць, пры Польшчы. У 1939 прыйшлі «нашы». У 1941 — немцы. Пасля вайны сям'я жыла без бацькі. Як высахлая сцябліна, цягнулася да жыцця маці. Адвяла ў калгас каня, працавала на кавалак хлеба — па неўміручай сялянскай звычцы. А гаспадара ў хаце сапраўднага не было.

Ці то ад нараджэння (а можа, ад беднасці або крыўды) Мікалая цягнула красці. Сёння за плячыма гэтага чалавека — дзевяць судзімасцей. У агульнай колькасці адседзеў у турме 25 гадоў. Не, ён не рабаваў людзей на вялікай дарозе, і шмат тысяч у яго таксама не было. Яго лавілі на дробязях і «давалі» звычайна нямнога, але папера да паперы— і атрымаўся «асабліва небяспечны рэцыдывіст».

Можа, каб знайшлася ў свой час адзінокая душа і змагла прыручыць, адагрэць гэтага пустэльніка — няньчыў бы і ён пад старасць унукаў. Але не песціў лёс Мікалая Казлея, і белыя прасціны пасля дзяцінства сустракаліся яму толькі ў турмах. Жыццё там толькі спачатку здавалася страшным. З кожнай «ходкай» усё цяжэй было вяртацца туды, дзе ніхто не чакаў, да дома, якога не існавала.

## Сумны эпілог

Неяк летам здзівіў стары ўчастковага: знайшоў недзе пусты звон, прычапіў жалязяку і павесіў перад дзвярыма. А потым раўніва пытаўся: чаму не звоніш перад тым, як увайсці? А то застаў аднойчы пад грушай з газетаю ў руцэ. «Цікаўлюся, што ў свеце робіцца», — адказаў дзед на скептычны позірк госця.

На падлозе ля грубкі ляжалі некалькі пацямнелых ад веснавой вільгаці штыкецін. І раптам у затхлай халоднай сырасці так ясна ўявілася: у печы гарыць агонь, чырвоныя языкі ліжуць паленцы, перад адчыненымі дзверцамі на зэдліку сядзіць маленькі чалавек, грэе рукі, а на ягоным плячы круціць галавою птушка. Прыручаны шэры голуб — адзіны даверлівы сябар, што так любіць кляваць з шурпатай далоні хлебныя крошкі. Так, гэта не выдумка, ён сапраўды быў, але птушкі, як і людзі, не любяць адзінокіх старых.

**Наталля ВАСЮК.**

г. Кобрын.

Фота Ігара **СІДАРУКА.**



*Наш юрыдычны факультатыў*

**Хацелася б даведацца, што лічыцца лжэсведчаннем. Гавораць, што яно нават цягне за сабой крымінальную адказнасць?..**

**Максім Бельскі, навучэнец ПТВ.**

**г. Мінск.**

# Цана хлусні

НАЎМЫСНА лжывыя паказанні сведкі, пацярпеўшага—гэта такія, якія сцвярджаюць аб існаванні абставін, якіх на самай справе не было, або наўмысна скажаюць абставіны, маючыя адносіны да справы, замоўчваюць аб фактычных абставінах справы.

У апошні час у следчай і судовай практыцы абвастрыліся праблемы лжэсведчання, змянення паказанняў. Прычым ілжывыя паказанні нярэдка даюцца на карысць абвінавачваемага (падсуднага).

Іх небяспека асабліва праяўляецца пры расследаванні, разглядажанні судом цяжкіх злачынстваў. У выніку лжэсведчання злачынствы да канца не раскрываюцца, іх арганізатары і найбольш актыўныя саўдзельнікі застаюцца беспакаранымі.

Арт. 177 Крымінальнага кодэкса Беларускай ССР прадугледжвае крымінальную адказнасць за заведама лжывыя паказанні ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да аднаго года або выпраўленчых работ на той жа тэрмін.

Павышаная адказнасць — пазбаўленне волі на тэрмін ад двух да сямі гадоў—прадугледжана за заведама лжывыя паказанні, спалучаныя з абвінавачваннем у асабліва небяспечным дзяржаўным або іншым цяжкім злачынстве, або са штучным стварэннем доказаў абвінавачвання, а таксама ўчыненыя з карыслівымі мэтамі.

Да крымінальнай адказнасці за гэтыя злачынствы могуць прыцягвацца людзі, якія дасягнулі шаснаццацігадовага ўзросту.

Трэба адзначыць, што адказнасць настае незалежна ад таго, які ўплыў аказалі лжывыя паказанні на зыход справы, у сувязі з якой яны былі зроблены.

**А. АРЛОЎ,**
**член судовай калегіі па крымінальных справах Вярхоўнага Суда Беларускай ССР.**

# Забойцу абараняюць дэпутаты

ДВАЦЦАЦЦЮ гадамі пазбаўлення волі заменена смяротнае пакаранне А. В. Запявалаву, асуджанаму 20 лістапада 1989 года Вярхоўным Судом РСФСР за бандытызм.

У снежні 1988 года гэты злачынец з мэтай грабяжу забіў у Маскве дзвюх жанчын (1918 і 1961 гадоў нараджэння). Авалодаўшы іх пашпартамі і 10.000 рублямі, А. Запявалаў купіў на нарабаваныя грошы вінтоўку і кулямёт у нейкага Капліна, які пазней таксама арыштаваны. Сам жа А. Запявалаў быў затрыманы на ўскрайку Варонежа ў момант выпрабавання зброі. Улічваючы цяжкасць злачынства, суд прыгаварыў забойцу да вышэйшай меры пакарання.

Аднак з афіцыйнымі хадайніцтвамі аб памілаванні А. Запявалава звярнуліся ў Вярхоўны Савет СССР народныя дэпутаты Аверынцаў, Мурашоў, Заслаўскі, Гаер, Андрэева, Левашоў. Камісія па памілаваннях прыслухалася да іх голасу. Указам Прэзідыума ВС СССР мера пакарання зменена. Пры гэтым было ўзята пад увагу, што асуджаны выхоўваўся без бацькі, добра характарызаваўся па ранейшаму месцу працы і зараз раскайваецца ў сваім учынку.

Відаць, многія з забойцаў могуць запісаць сабе ў актыў і дзяцінства ў няпоўных сем'ях, і неблагія характарыстыкі, а наконт раскайвання — то ў кожнага на твары «кракадзілавыя» слёзы. Тым не менш, указы аб памілаванні прымаюцца вельмі рэдка, бо не ўсяляκі злачынец знойдзе падтрымку ў народных выбраннікаў. Чаму ж такі клопат яны праявілі ў адносінах да А. Запявалава? Здаецца, што не апошнюю ролю адыграла тое, што забойца нечых бабулі, маці, дачкі і каханкі быў арганізатарам узброенай банды, якая назапасіла 27 адзінак стралковай зброі і рыхтавалася перайсці Дзяржаўную граніцу СССР. А гэта ўжо палітыка, бо і з вялікіх трыбун мы сёння нярэдка чуем размовы аб скасаванні граніц і зліцці нашай краіны са светам капіталу.

**А. ПЯТРОЎ.**

*Бывае і так*

# Малалетні каўбой,

### АБО ПАРАДА НАСТАЎНІКАМ: НЕ ЖАРТУЙЦЕ З ЗАПАЛКАМІ!

СЯМІКЛАСНІКА адной з сярэдніх школ амерыканскага горада Гранд-Прэры (штат Тэхас) «застукалі» — настаўнік знайшоў у яго запалкі. Настаўнік, улічваючы «крымінальнае» мінулае выхаванца (той ужо падвяргаўся пакаранню за тое, што ўчыніў невялікі такі пажарчык у туалетным пакоі школы), накіраваў яго да намесніка дырэктара навучальнай установы. А пагражала гэта хлопчыку тым, што ў яго, напэўна, адабралі б запаветныя «чароўныя палачкі».

Падлетак, перш чым прыступіць да гутаркі з начальствам, наведаўся ў адно аднаму яму вядомае месца і прыхапіў там для большай смеласці і, напэўна, абароны сваіх грамадзянскіх правоў... пісталет. З патронамі. Якімі ён пакарыстаўся так: намеснік дырэктара, праўда, паспела зачыніць перад носам малалетняга каўбоя дзверы, і дзве кулі нікога не пашкодзілі. Што датычыцца настаўніка, то ён на працягу гадзіны быў у ролі заложніка.

Некалькі соцень вучняў, якіх тэрмінова эвакуіравалі ў суседнюю школу, з цікавасцю чакалі паведамленняў аб ходзе перагавораў прыбыўшай паліцыі з «тэрарыстам». І той удалося мірам вырашыць супрацьстаянне, якое ўспыхнула з-за адной упакоўкі запалак.

Некалькі соцень школьнікаў былі задаволены — падзея, ды і ўрокі ў панядзелак былі сарваны. А вось для выкладчыкаў 13 мая наўрад ці стала прыемным днём — усё ж страху нацярпеліся.

**А. ЛАЗАРАЎ.**

## М. Кузняцоў

# З пакутнага крыжа

(Працяг. Пачатак у № 21).

Царскі трон рушылі разам і самае нязначнае імкненне якой-небудзь з партый вылучыцца разглядалася як здрадніцкі падкоп пад рэвалюцыю, хоць адрозненні, вядома, існавалі і ўлічваліся. Зыходзячы з гэтага, можна зразумець і Усевалада Макаравіча, які, падзяляючы погляды эсэраў, удзельнічаў ва ўстанаўленні Савецкай улады ў Яраслаўлі, прыняўшы яе як сведчанне аб'ектыўнага развіцця рэвалюцыі. Але на першым плане — Беларусь. «Што будзе з ёю, калі ўжо прыйдзе канец бежанству, калі, нарэшце, вернемся дамоў?». Гэтыя пытанні крывавяць сэрцы, абвастраюць пачуцці, непакояць розум.

А ў Беларусі ўсталявалася, і ў лютым 1918 г. была скасавана ў выніку наступлення германскіх войск Савецкая ўлада. Ва ўмовах нямецкай акупацыі Рада БНР імкнецца заявіць пра сябе як паўнамоцны ўрад Беларусі, спрабуе заручыцца падтрымкай германскага камандавання, робіць пэўныя захады па наладжванню культурна-асветніцкай работы, імкнецца дабіцца прызнання свайго дзяржаўнага ўсталявання з боку некаторых краін. Усё гэта штучна, зневажальна, крыўдна. Але ж гэта для Беларусі. Мабыць, менавіта таму, калі ў верасні 1918 г. Рада БНР дамаўляецца з органамі Савецкай ўлады ў Яраслаўлі аб вяртанні настаўніцкага інстытута ў Мінск, У. М. Ігнатоўскі ў саставе педкалектыву едзе ў Беларусь.

У Мінску яшчэ ўладараць немцы, але па ўсім бачна, што ім карціць хутчэй вярнуцца ў Фатэрлянд. Яны вітаюць рэвалюцыю ў Расіі і пагражаюць Вільгельму здзейсніць тое ж самае, што зрабілі рускія са сваім царом.

У Мінску пануе вялікае ўзрушэнне. Усе прадракаюць хуткую рэвалюцыю ў Германіі, скасаванне Брэсцкага дагавора. На гэтай плыні актывізуецца дзейнасць падпольных арганізацый бальшавікоў, партый, якія легальна дзейнічалі. На гэтай хвалі па ініцыятыве леванародніцкага крыла Беларускай сацыялістычнай грамады ствараецца Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў БПС-Р — перамагае імкненне стварыць нешта сваё, беларускае. У. М. Ігнатоўскі — адзін з ініцыятараў яе стварэння. Ад «Маладой Беларусі» ён уваходзіць у ЦК БПС-Р, наладжвае і падтрымлівае кантакты з бальшавіцкім падполлем у Мінску.

Мяркую, што тут трэба шукаць і вытокі ягоных кантактаў з Масквой, Беларускім нацыянальным камісарыятам (Белнацкомам), а таксама з Цэнтральным бюро камуністычных секцый РКП(б). Гэта пра многае гаворыць, хоць Ігнатоўскі не разрывае сувязей і з эсэрамі. У некаторых сучасных навукоўцаў і гэта выклікае падазронасць і неразуменне. Хоць усё значна прасцей: рэвалюцыя абараняецца, сацыялісты, у тым ліку і эсэры, па многіх пытаннях з бальшавікамі дзейнічаюць разам. Яшчэ не падазрае Якаў Блюмкін, якая яму выпадзе роля ў рэвалюцыі, яшчэ Марыя Спірыдонава заклікае левых эсэраў раздзяліць з бальшавікамі адказнасць за Брэсцкі мір, яна яшчэ ўпэўнена гаворыць: «Мір быў падпісаны не намі і не бальшавікамі, ён быў падпісаны галечай, голадам, нежаданнем усяго народа — змучанага, стомленага — ваяваць. І хто з нас скажа, што партыя левых сацыялістаў-рэвалюцыянераў, калі б яна прадстаўляла адна ўладу, зрабіла б інакш, чым зрабіла партыя бальшавікоў».

У той час, як лідэры Рады БНР падладжваліся пад камандаванне акупацыйных германскіх войск у сваіх планах на стварэнне буржуазнай рэспублікі, У. М. Ігнатоўскі не запляміў сябе супрацоўніцтвам з захопнікамі. Для яго гэта было справай гонару. Усевалад Макаравіч ведаў, што беларускі народ ніколі не змірыцца з ворагамі сваёй зямлі, што ён не даруе змовы з заваёўнікамі.

Ён зрабіў і другі беспамылковы крок —яднання з шырокімі масамі працоўных, якія ішлі за бальшавікамі. Пра іх аўтарытэт у працоўных пісаў І. Лагун, упаўнаважаны Белнацкома, які ў верасні 1918 г. пабываў на акупіраванай тэрыторыі Беларусі: «Усё насельніцтва з надзеяй глядзіць у бок Расіі... Мясцовае насельніцтва адчувае ў бальшавіках нешта святое, рэвалюцыйнае, вялікае». («Дары данайцаў» Мн., 1967. С. 113).

У снежні 1918 г. немцы, паводле Брэсцкага дагавора, пачалі пакідаць тэрыторыю Беларусі. Чырвоная Армія — займаць вызваленыя гарады і вёскі. У. М. Ігнатоўскі шчыра вітаў прыход Савецкай улады.

Галоўнае пытанне, якое ўвесь гэты час хвалявала яго,— адносіны Паўночна-Заходняга камітэта РКП(б) да самаўладкавання беларусаў і стварэння Беларускай дзяржавы.

Дзівіла маніпуліраванне лозунгам самаўладкавання народаў. А. Ф. Мяснікоў, В. Г. Кнорын, іншыя кіраўнікі Паўночна-Заходняй вобласці, падпадаючы пад уплыў вядомых дзеячаў рэвалюцыйнага руху, лічылі, што на этапе барацьбы за рэвалюцыю ён насіў прагрэсіўны характар, быў правільным, паколькі спрыяў аб'яднанню працоўных.

Ва ўмовах жа перамогі рэвалюцыі, маўляў, гэты лозунг страціў сваё значэнне, бо азначаў бы раз'яднанне нацый, вёў бы да стварэння дробных нацыянальных утварэнняў — рэспублік, што нібыта не адпавядала, перашкаджала ажыццяўленню курсу на сусветную пралетарскую рэвалюцыю і стварэнне адзінай сацыялістычнай дзяржавы.

Аднак развіццё падзей паказвала, што ажыццяўленне лозунга на сусветную пралетарскую рэвалюцыю ідзе не так проста, як меркавалася. Гэта прымушала бальшавіцкую партыю мяняць тактыку, глыбей аналізаваць рэчаіснасць, выбіраць новую лінію, улічваць цягу народаў да стварэння сваёй нацыянальнай дзяржаўнасці. Так, былі створаны Украінская Савецкая Рэспубліка, аб'яўлены суверэнітэт рэспублік Прыбалтыкі. У Беларусі ж гэты працэс замарудзіўся, паколькі кіраўнікі абласнога камітэта бальшавікоў лічылі, што тут няма падстаў для стварэння беларускай дзяржаўнасці з-за этнаграфічнай блізкасці рускага і беларускага народаў, што павінна аб'ядноўваць у адно дзяржаўнае ўтварэнне. А тыя адрозненні, якія існуюць і быццам бы вызначаюць беларускую нацыю, павінны быць зжыты. Гэта была, вядома, памылка. Але такая, што тармазіла вырашэнне аднаго з важнейшых пытанняў, якое пад уплывам дзейнасці бальшавікоў, Белнацкома ўздымалася ўсё больш настойліва.

Імкненне працоўных Беларусі да стварэння сваёй дзяржаўнасці адчулі і ў ЦК РКП(б). Думаецца, што ў многім гэта матывавалася таксама імкненнем буржуазнай Польшчы захапіць, уключыць беларускія землі ў склад сваёй дзяржавы. А. Ф. Мяснікоў атрымаў паведамленне, якое да многага абавязвала і прапаноўвала перагледзець свае погляды на беларускае пытанне: «ЦК партыі,— гаварылася ў ім,— па многіх меркаваннях, аб якіх гаварыць не даводзіцца, згадзіўся з беларускімі таварышамі на стварэнне беларускага савецкага ўрада».

Такі падыход цалкам адпавядаў поглядам і настроям Ігнатоўскага. У гэтым мы можам пераканацца па яго непрымірымай пазіцыі, занятай у 1919 г. пасля захопу Мінска польскімі легіянерамі. Ю. Пілсудскі не меў намераў доўга валэндацца з імкненнямі і пажаданнямі беларусаў. Паабяцаўшы федэрацыю для прыліку, ён на самай справе аб'явіў аб далучэнні беларускіх земляў да Польшчы, шырокавяшчальна абвясціўшы аб адраджэнні колішняй Рэчы Паспалітай.

У гэтых планах месца ні БНР, ні ССРБ, вядома, не заставалася. У. М. Ігнатоўскі адчуў сябе зняважаным, ён уключаецца ў барацьбу супраць польскіх інтэрвентаў, згуртоўвае вакол сябе шырокае кола студэнцтва, выкладчыкаў. Разам з ім дзейнічаюць Міхась Чарот, Алесь Сташэўскі, Сцяпан Булат, уся «Маладая Беларусь», якая адыходзіць ад БПС-Р, стварае 1 студзеня 1920 г. у Мінску Беларускую камуністычную арганізацыю (БКА), прызнаўшы праграму РКП(б), яе арганізацыйныя прынцыпы. ЦК БКА словамі У. М. Ігнатоўскага заявіла, што ён «дамагаецца ладу Савецкай Беларускай Рэспублікі, спадзеючыся на дапамогу Савецкай Расіі, з якой Савецкая Беларусь знаходзіцца ў федэратыўнай сувязі». ЦК Кампартыі Літвы і Беларусі са Смаленска падтрымаў маладую арганізацыю, звязаўшы яе людзей з разгалінаваным падполлем у Мінску, ажыццяўляў каардынацыю дзейнасці змагароў супраць польскіх легіянераў. БКА расла колькасна, уключаючы ў сябе ўсё больш шырокія масы беларускага народа. У пачатку 1920 г. яна налічвала ўжо каля дзвюх тысяч чалавек, якія дзейнічалі як у Мінскай, так і ў Гродзенскай губернях. З'яднаныя ў арганізацыі, яны падтрымалі заклік ЦК КП(б)Л і Б аб падрыхтоўцы ўзброенага паўстання супраць легіянераў, вызваленні Беларусі. З гэтае нагоды ЦК БКА стварыў Беларускі паўстанцкі камітэт (БПК), які наладжваў баявыя дзеянні партызан, падтрымліваў цесныя сувязі са Смаленскам, з Рэўваенсаветам Заходняга фронта, што разгортваў наступленне супраць польскіх інтэрвентаў: БПК уключаў таксама прадстаўнікоў ЦК КП(б)Л і Б, кіраўнікоў Мінскага падполля, іншых патрыятычных сіл.

Вызваленне Беларусі набліжалася. Паўстала пытанне аб арганізацыйных адносінах з КП(б)Л і Б.

У. М. Ігнатоўскі цвёрда выказаўся за аб'яднанне і нямала зрабіў, каб арганізацыі БКА як мага хутчэй зліліся з КП(б)Л і Б.

11 ліпеня 1920 г. Чырвоная Армія ўступіла ў Мінск. Разам з А. Р. Чарвяковым, В. Г. Кнорыным, І. А. Адамовічам У. М. Ігнатоўскі ўваходзіць у Белрэўком, удзельнічае ў падрыхтоўцы абвяшчэння незалежнасці Беларусі, працуе ў саставе Мінскай партыйна-арганізацыйнай тройкі па прыёму былых членаў БКА ў члены РКП(б). 30 ліпеня 1920 г. у рады РКП(б) быў прыняты і Усевалад Макаравіч.

31 ліпеня 1920 г. у Мінску адбыліся ўрачыстасці. Прымалася «Дэкларацыя аб абвяшчэнні незалежнасці Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі». Ад імя БКА. разам з прадстаўнікамі ЦК КП(б)Л і Б яе падпісаў і У. М. Ігнатоўскі.

Гэта быў учынак перакананага камуніста, гарачага прыхільніка Беларусі, які не падзяляў ілюзій дробнабуржуазных партый, у тым ліку БПС-Р, што адмовіліся падпісаць Дэкларацыю, выбраў шлях служэння свайму народу.

Грамадзянская вайна скончылася. Пачынаўся новы этап жыцця Беларусі, дзейнасці Усевалада Макаравіча.

Са жніўня па сакавік 1921 г. ён —нарком земляробства. Сяляне атрымліваюць зямлю ў бесплатнае карыстанне, свабодна выбіраюць формы землекарыстання. Пастунова ідзе асераднячанне сялянства, умацаванне гаспадарак. Работы — непачаты край. Усевалад Макаравіч не скардзіцца, але адчувае, што заняты не сваёй справай. А. Р. Чарвякоў, у той час старшыня ЦВК БССР, разумее яго і з вясны 1921 г. па люты 1926 г. У. М. Ігнатоўскі працуе наркомам асветы. Кадраў не хапае, таму на тых, хто «вязе», ускладваюць дадатковую ношу: з лістапада 1924 г. па люты 1926 г. Усевалад Макаравіч адначасова і загадчык агітпрападдзела ЦК КП(б)Б.

Апынуўшыся ў сваёй «стыхіі», У. М. Ігнатоўскі рэарганізуе апарат наркамата, вызваляючы яго ад неўласцівых спраў, скарачае яго, накіроўваючы дасведчаных, адукаваных людзей туды, дзе маецца патрэба. Уводзяцца і новыя пасады з улікам вырашэння задач народнай асветы. Пачынаць даводзілася практычна з нуля: школы разбураны, іх мала, падручнікаў не хапае, патрэбна паліва, новыя праграмы навучання. Цяжкасці ўсведамляюць і ў ЦК КП(б)Б, і ў ЦВК рэспублікі. Усё, што просіць Усевалад Макаравіч, усё, што магчыма даць у тых умовах, выдзяляецца адукацыі: школа закладвае ў дзецях новы светапогляд, школе нельга адмовіць. Такі падыход натхняе, патрабуе працаваць, не шкадуючы сябе. Менавіта так і працаваў Ігнатоўскі. Радавалі першыя парасткі адданасці. Ужо ў 1921 г. у рэспубліцы працавала шэсць тысяч школ, у якіх вучылася 450 тысяч дзяцей. Гэта нямала па тых бедных часах, але недастаткова, бо вучыцца могуць толькі 60 працэнтаў дзяцей школьнага ўзросту. У школах працуе каля 11 тысяч настаўнікаў, што таксама яшчэ мала. А час ідзе, час прыспешвае, дзеці растуць, навучанне іх адкладваць нельга. І зноў сядзіць да позняга часу нарком, прыкідвае, што яшчэ можна зрабіць, як рушыць справу нацыянальна-культурнага будаўніцтва далей.

Адзін з крокаў на гэтым шляху—выкарыстанне роднай беларускай мовы на працы: у наркамаце земляробства, у наркамаце асветы. Аказалася, нічога цяжкага ў гэтым няма, усе падтрымалі перавод справаводства на беларускую мову, загаварылі на пасяджэннях, сходах. Пашыраючы выкарыстанне беларускай мовы, Усевалад Макаравіч накіроўваў пагляд далей, глыбей, разглядаючы мову як важнейшы фактар культурнай рэвалюцыі. Пры падтрымцы А. Р. Чарвякова і пад яго кіраўніцтвам наркамат асветы выпрацаваў праграму нацыянальна-культурнага будаўніцтва, увасобленую ў дакладзе, з якім нарком выступіў на пасяджэнні ЦВК. Урад Беларусі ўхваліў напрамкі нацыянальнай палітыкі ў рэспубліцы, прыняў пастановы аб роўнасці беларускай, рускай, польскай, яўрэйскай моў, развіцці прафесійнай адукацыі, пашырэнні колькасці курсаў і гурткоў па авалоданню беларускай мовай.

Састаўной часткай гэтае праграмы з'яўлялася адкрыццё ў Мінску універсітэта. Падзеі папярэднічала вялікая работа наркамата і асабіста Усевалада Макаравіча па вырашэнню матэрыяльных, кадравых пытанняў дзейнасці будучай вышэйшай навучальнай установы Беларусі. Звязваліся з навучальнымі ўстановамі Масквы, Петраграда, агітавалі выкладчыкаў прыехаць у Мінск для працы ва універсітэце.

Урачыстае адкрыццё БДУ адбылося 11 ліпеня 1921 г. у гадавіну вызвалення Мінска ад польскіх легіянераў: адкрыццё універсітэта віталі старшыня СНК БССР А. Р. Чарвякоў, сакратар ЦК КП(б)Б В. Г. Кнорын. Віншавальнае слова сказаў і У. М. Ігнатоўскі, пажадаўшы новай установе рэспублікі рыхтаваць такія кадры, якія б былі здольныя не толькі самі авалодаць духоўным багаццем, але і шчодра падзяліцца сваімі ведамі на карысць роднага краю.

Разумеючы, што БДУ больш патрэбна дапамога справай, чым самым прыгожым віншаваннем, Усевалад Макаравіч даў згоду чытаць лекцыі студэнтам, быць адначасова членам праўлення універсітэта, намеснікам рэктара, дэканам факультэта грамадскіх навук, дэканам педагагічнага факультэта. Тым самым хацеў дапамагчы БДУ хутчэй стаць на ногі, узяць правільны курс.

У 1922 г., у дзень першай гадавіны, ён параўноўваў БДУ з маладым дрэўцам, пасаджаным мазолістымі рукамі працоўнага народа, якое расце і мацнее.

Не пакідаў без увагі універсітэт і пазней, знаходзячыся заўсёды з калектывам выкладчыкаў і студэнтамі, дапамагаючы ў вырашэнні розных гаспадарчых і навукова-педагагічных задач. Гэта надавала У. М. Ігнатоўскаму вялікі аўтарытэт. Яго паважалі і любілі. Невыпадкова, што ў 1925 г. выкладчыкі, студэнты прынялі самы шырокі ўдзел у адкрыцці ў Мінску народнага дома імя У. М. Ігнатоўскага.

Відаць, знаходзячыся ў курсе спраў універсітэта, навуковых праблем, да якіх паступова падступаліся выкладчыкі і студэнты, Усевалад Макаравіч адчуў наспеўшую неабходнасць грунтоўнага вывучэння ўсіх аспектаў беларускага мовазнаўства. Ён раптам адчуў, што без гэтага нельга і кроку ступіць у далейшым развіцці мовы. Створаная ім Навукова-тэрміналагічная камісія ўзялася за справу. Але хутка высветлілася, што абсягі работы такія агромністыя, што невялікаму калектыву камісіі з ёю не справіцца, што Беларусь мае патрэбу ў такой навуковай установе, якая б вяла даследаванні на больш шырокім гарызонце, ахоплівала шэраг праблем развіцця беларускай нацыянальнай культуры. Такі падыход падзялялі С. М. Некрашэвіч, Я. Ф. Карскі, У. І. Пічэта, якія выказалі У. М. Ігнатоўскаму гэтыя свае меркаванні. Усевалад Макаравіч пагадзіўся з імі і звярнуўся ў ЦК КП(б)Б і ва ўрад рэспублікі з абгрунтаваннем неабходнасці арганізацыі Інстытута беларускай культуры, адкрыццё якога адбылося 30 студзеня 1922 г. Узначаліў інстытут С. М. Некрашэвіч.

(Працяг будзе).




**Адзвінелі апошнія ў гэтым навучальным годзе школьныя званкі. Радасна ўздыхнулі тэхнічкі. Дзятва кінулася на «скэйты», ровары, дрэвы, платы, чужыя клубніцы... у рэчкі, азёры, лясы, піянерскія летнікі, трубы розных дыяметраў, катакомбы. Настаўнікі памянялі асадкі на малаткі, якіх так не хапала пад час урокаў. Настаўніцы перасталі карыстацца парфумерыяй і перайшлі да пабелкі столі. Дырэктары захапіліся рок-музыкай, сервіроўкай сталоў і развучваннем бальных танцаў.**

**Адзвінелі званкі... Ды не адзвінеў дзіцячы смех. Няхай жа ён гучыць усё гэтае лета! З раніцы да 22.00. Рэжым ёсць рэжым. З канікуламі вас, нашыя чытачы-вучні і чытачы-настаўнікі!**

**Віктар ВАРАНЕЦ**

# Эксперымент

Мікіта Пятровіч Казюлькін павольна адчыніў дзверы і, рэзка ўскочыўшы ў клас, адкрыў рот, каб закрычаць традыцыйнае:

— Усім устаць! Супакоіцца! Настаўнік прыйшоў!

Але крычаць не прыйшлося. Бо клас стаяў па стойцы «смірна» і маўчаў. «Нешта прыдумалі, — мільганула ў галаве Казюлькіна. — Трэба быць пільным». Ён махнуў рукой — і шасцікласнікі селі. Тым часам настаўнік непрыкметна пакратаў дошку — ці не нацёрлі яе парафінам, пакруціў крэсла — ці не падкінулі чаго, уважліва агледзеў падлогу — маглі нацягнуць шнурок. Але (на дзіва!) усё было ў парадку. Хаця ў якім парадку? Непрывычныя абставіны палохалі Мікіту Пятровіча. «Нічога, — супакойваў ён сябе,— зараз пачну выклікаць, вось тады і пачнецца». Казюлькін адкрыў журнал і гучна абвясціў:

— М. Багдановіч. «Слуцкія ткачыхі». Напамяць. Хто не вывучыў?

Настаўнік з надзеяй падняў галаву. Але ніводная рука не паднялася ўгору. «А што гэта за напасць? Што здарылася? Чаму яны такія?» — забегалі думкі ў галаве. І каб усё паставіць на свае месцы, ён выклікаў вядомага гультая і разгільдзяя Хракіна. Заўсёды расхрыстаны, кудлаты Хракін чамусьці быў у чыстай белай кашулі, акуратна пастрыжаны і прычасаны. Ён борздзенька ўскочыў і пачаў з выразам:

— Ад родных ніў да роднай хаты,

На панскі двор дзеля красы...

У Казюлькіна перахапіла дых. Ён ледзьве не заплакаў, зусім нічога не разумеючы. Хракін расказваў верш! І самае жахлівае, астатнія моўчкі слухалі, згоднаківалі галовамі. Мікіта Пятровіч не сцярпеў. Ён хуценька скатаў шарык з паперы і плюнуў у шчаку яшчэ ўчора гарэзліваму хлапчуку з дзіўным прозвішчам Збых. Але той толькі скасіў на Казюлькіна поўныя дакору вочы і, папярэджваючы, памахаў пальцам. Мікіта Пятровіч страціў прытомнасць і паваліўся. Яго абступілі дзеці. З-за шафы вылез барадаты мужчына з кінакамерай. Хракін павярнуўся да яго.

— Ну што? Мы ж казалі, што нічога не атрымаецца. Не прывык ён працаваць без цяжкасцей, вось і не вытрымаў...

І вучні пачалі адліваць настаўніка вадой.

*Любімыя загадкі англійскай дзятвы*




*Нам пішуць*

# Прызнанне

**Горад Мінск. Праспект «Чырвонай змены». Хата ўсіх газет. Тыдні.**

**Доблы дзень, мая далагая Тыдня!**

**Піса табе твой сцылы плыхільнік Ігал. Мне хутка будзе пяць гадоў, і мама сказала, сто я ўзо зусім далослы. А таму, я думаю, маю малальнае плава напісаць табе.**

**Я з нецялплівасцю цакаю кознае сустлэцы з табою, далагая, мая, адзіная. Я не магу без цябе плазыць ні хвіліны, нават калі кладуся спаць, хаваю цябе пад падуску. Хаваю, каб мама не бацыла, бо хіба плэдкі здольныя злазумець нас, моладзь?**

**А ясцэ ў мяне ёсць пазалная масына, такая з цылвоная, як і васа газета. І бабуля абяцае, калі буду слухацца, падалыць на дзень наладзэння плюсавага міску. А я яе пласу: не далы міску, афолмі мне падпіску на «Цылвоную змену», толькі не на цолную змену і не на сэлую ў яблыках, якой яна была ланей.**

**Далагая мая Тыдня. Я бацу, сто табе няма цаго апланучь, пэўна, у вас там, у Мінску, таксама пелабудова, як і ў нас, і ўсё па талонах. Я хацеў табе выслаць сто-небудзь, каб не было соламна і холадна, але бабуля сказала, сто ў насым магазіне салом пакаці. Гэта яе аднойцы ў магазіне салом пакацілі, калі быў плывоз, то яна болей туды не ходзіць, баіцца, сто касцей не сабялэ. А таму высылаю толькі сваё паэтыцнае плызнанне, напісанае ў высакалодным палыве дусы. І няхай яно цябе саглэе. А моза дзядзя Масалэнка ўпадабае яго і надлукуе ў «Клыніцах»?**

О, мая Сахілызада,
Казка тысяцы нацэй,
Мне ніцога больс не нада,
Толькі б пятніца хутцэй.
На газету на «Цылвонку»
Падпісуся ўсё адно
За любімую сталонку,
Там, дзе Тыдня і кіно.
Галбацоў сказаў уцола,
Сто плацэс узо пайсоў,
Так сто ў кламах будзе скола
І сукенак, і тлусоў.
А калі тлусоў не будзе,
Дземянцею напісу —
Хіба Тыдні ды не людзі?! —
Я яго тады спласу.
На Вялхоўным на Савеце
Хай плыдумаюць законы,
Каб давалі і газеце
Хоць сто-небудзь на талоны,
Бо пакуль ясцэ да лынку
Дабяломся я і ты,
Мозна тут сыглаць у склынку
І адкінуць капыты.
І лэфелэндум не памоза,
Сто семнаццатага йсоў,
Бо які з Саюз, о боза!
Без цукелак і тлусоў?

**Пастстклыптум. Я ясцэ добла не ўмею пісаць, таму па маёй плосьбе з захаваннем аўталскай тлансклыпцыі пісьмо запісаў мой дзядзя**

**Міхась ВАЛОХА.**

*Вучнёўскі прэс-цэнтр паведамляе*

**Як заўсёды раней тэрміну!**
Датэрмінова завяршае навучальны год шосты клас Карасевіцкай няпоўнай сярэдняй школы. На календары яшчэ толькі 15 мая, а ўсе вучні ўжо даўно сядзяць ля меліярацыйных канаў з вудамі.

**Добрая вучоба — таксама подзвіг!**
Гэтая народная показка ўпрыгожвае парадныя дзверы ці не кожнай школы Мухавіцкага раёна. Ды не кожны вучань здолее растлумачыць лозунг. З кантрольнага апытання, якое правадзіў сам загадчык райана Т. Ш. Мухін, высветлілася, што 98 працэнтаў дзяцей лічаць подзвігам набыццё іхнімі бацькамі школьнай формы.

**Нарошчваць тэмпы!**
Раённая алімпіяда сярод другагоднікаў, што паспяхова прайшла ў Дэбіловічах, высветліла: настаўнікі большасці школ раёна ўдзяляюць шмат увагі адстаючым вучням.

**Курэнню — бой!**
Арганізатар пазакласнай работы Завош'еўскай СШ Ніна Яўгенаўна Хітрая знайшла эфектыўны сродак барацьбы з вучнямі, якія кураць. 234 шыльдачкі (па колькасці зарэгістраваных юных курыльшчыкаў) са словамі «не курыць!!» размешчаны ў розных кутках школьнай тэрыторыі.

**Бывай, школа!**
Гэтыя словы са слязамі на вачах перадалі нашаму карэспандэнту Я. Трусу вучні і настаўнік Фантаазёрскай пачатковай школы. Майскі вятрыска, якога не памятаюць нават пенсіянеры, літаральна ўзняў фанерную школку ў паветра і закінуў яе на сіласную вежу.

Па шчаслівай выпадковасці ніхто не пацярпеў. Настаўнік і ягоныя тры вучні ў гэты час знаходзіліся ў цагляной прыбіральні праўлення калгаса.

**Ёсць падставы весяліцца!**
Добры, святочны настрой сёння ў двойчы кавалера ордэнаў Працоўнага Чырвонага Сцяга, лаўрэата прэміі імя Я. А. Каменскага, кандыдата педагагічных навук, дэпутата райсавета, дырэктара Метрыкаўскай СШ Рыгора Ануфрыевіча Кіламетрава. І на гэта ёсць грунтоўныя падставы. Справа ў тым, што вучань пятага класа Сцяпан Булаховіч, на рахунку якога тры ўгоны матацыклаў, два замахі на крадзеж гарэлкі з вясковай крамы, спроба згвалтаваць настаўніцу фізкультуры, а таксама дэмантаж камбайна «Дон-1500» на запчасткі для колерамузыкі, зрэшты згадзіўся забраць са школы свае дакументы і ехаць у раён вучыцца на повара.

**У прэс-цэнтры дзяжурыў**
**А. ПАХМЯЛЕЎСКІ.**



Дзяжурны рэдактар Л. ЧАРАПАВІЦКІ. — Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

**Заснавальнік: ЦК ЛКСМ Беларусі**

Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга

АДРАС рэдакцыі: 220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 77

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная — 32-13-54, аддзел пісьмаў і сацыяльных праблем — 32-50-01

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, г. Мінск. Індэкс 63906

**Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ: Святлана БАРАННІКАВА, Валерый ВАРАНЕЦКІ, Аляксандр ГУРА, Валерый ІВАНОЎ, Алег КАМІНСКІ (першы нам. гал. рэдактара), Віктар ЛЮКОВІЧ, Мікалай ЛАРКОВІЧ, Алесь МАСАРЭНКА, Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, Галіна ПШОНІК, Алесь ПАЛЫНСКІ, Алег СЛУКА, Сяргей ТАЛЯРОНАК, Леанід ЧАРАПАВІЦКІ (нам. гал. рэдактара — адказны сакратар), Вольга ШАЎКО, Кузьма ШАПЛЫКА.



Зак. № 22.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

*Як гэта «у них»*

# «Вучыцеся, каб болей зарабляць»

**Сістэме адукацыі ЗША патрэбны глыбокія пераўтварэнні — да такой высновы прыйшоў Камітэт эканамічнага развіцця, які аб'ядноўвае кіраўнікоў буйных амерыканскіх карпарацый.**

КАБ ДЗЕЦІ паспяхова вучыліся, неабходна, каб пра іх клапаціліся з самага маленства. Для гэтай мэты прапануецца выдзеліць дадаткова звыш 10 мільярдаў долараў на патрэбы дашкольнікаў.

Кожны з гэтых долараў прынясе ў будучым прыбытак ад 3 да 6 долараў. З другога боку, ігнараванне патрэб падрастаючага пакалення пагражае павярнуцца сур'ёзнымі праблемамі. Згодна з прагнозамі, амерыканцы, якія не скончылі школу, на працягу жыцця заробяць прыблізна на 237 мільярдаў (!) долараў менш, чым іх больш адукаваныя суайчыннікі. Прычым адчуе гэта і дзяржаўная «кішэня», якая не атрымае падаткаў на 70 мільярдаў долараў.

# «Абітура, займі чаргу!»

Па правілах, якія існуюць у Францыі, усе абітурыенты, з поспехам здаўшыя дзяржаўныя экзамены на званне бакалаўра, прымаюцца, дакладней, запісваюцца на абраны імі факультэт універсітэта па «жывой» чарзе. Да тых часоў, пакуль усе месцы не будуць заняты.

Запіс пачынаецца ў дзень абвяшчэння вынікаў экзаменаў, і Парыж у той дзень уяўляе дзіўнае відовішча: ля дзвярэй факультэтаў ствараюцца імправізаваныя лагеры юнакоў і дзяўчат, якія займаюць чаргу з ночы. Адзін з парыжскіх універсітэтаў увёў у дзеянне камп'ютэрную сістэму запісу першакурснікаў, да якой можна падключыцца праз тэлефонную сетку з дапамогай невялікага дысплея. Такія дысплеі знаходзяцца амаль у кожным французскім доме.

Новаўвядзенне было неадназначна ўспрынята абітурыентамі. Адны, відаць, не «ачухаліся» пасля шматгадзіннай чаргі і горача яго віталі. Другія заявілі аб магчымых злоўжываннях і парушэнні прынцыпаў справядлівасці.

**Падрыхтавала Наталля ПЛЫТКЕВІЧ.**

*А як «у нас»?*

# Ад прэстыжнага вучылішча да прэстыжнага калежа

Адышлі ў мінулае неахайныя афіцыянткі, якія шаркалі па рэстараннай зале ў пантофлях і разлівалі на падлозе боршч. Сёння іх замянілі элегантныя маладыя людзі, якія ўмела сервіруюць стол, бармены, якія маланкава змешваюць кактэйлі на любы густ, повары, спасцігшыя сакрэты нацыянальных кухань свету. Прыток замежных турыстаў і бізнесменаў у сталіцу даў адчувальны штуршок паляпшэнню якасці сервісу, зрабіў прэстыжнай работу гэтай службы. У рэстараны пайшла моладзь. Дзе ж можна атрымаць стаўшую такой папулярнай прафесію?

Разнастайныя спецыяльнасці сервіснай службы, якім навучаюць у Маскоўскім ПТВ-168. З 1977 года тут рыхтуюць работнікаў для абслугоўвання замежных гасцей: метрдатэляў, пакаёвак, барменаў, афіцыянтаў з веданнем замежнай мовы, повараў-спецыялістаў па нацыянальнай і замежнай кухні. Дарэчы, валоданне мовамі тут абавязковае для ўсіх — ад кандытара да касіра-кантралёра. Правядзенне фінансавых аперацый з грашовымі адзінкамі любой краіны свету таксама ў праграме вучылішча. Стажыруюцца навучэнцы ў Італіі, Даніі, Францыі і Аўстрыі. Даволі прыцягальная форма навучання, ці не праўда?

З верасня навучанне стане трохгадовым, а вучылішча пераўтворыцца ў калеж.

**На здымку: Андрэй ШЧАПІНАЎ** — адзін з лепшых на курсе.

Фота **П. Максімава. (ТАСС).**



*Суб'ектыўна*

# Калі б рэктарам быў я...

**Калі б я быў рэктарам і ніякія інструкцыі не звязвалі мне рукі, то на гуманітарных факультэтах зрабіў бы наступнае:**

1. Увёў бы абавязковы курс хуткага чытання. Няёмка ісці ў XXI стагоддзе з навыкамі разумовай працы XIX.

2. Зрабіў бы абавязковым курс машынапісу, таму што прымушаць студэнта канспектаваць, не навучыўшы папярэдне пісаць хутка, скажам шчыра, не вельмі разумна.

3. Зрабіў бы абавязковы курс машынапісу, таму што ў наш час чалавек, які не валодае машынапісам, тое ж самае, што непісьменны. Ды і ў час надыходзячай камп'ютэрызацыі зусім не шкодзіць мець навыкі карыстання клавіятурай. Машынкі можна набыць за кошт студэнтаў, каб яны заставаліся ў іх асабістым карыстанні. Магчыма, выдаў бы ў крэдыт, каб грошы вярнулі пасля летніх канікулаў.

4. Увёў бы абавязковае вывучэнне польскай мовы; па выбару — адной з моў народаў СССР (літоўскай, латышскай і г. д.). Для гуманітарыя, які не валодае польскай мовай, выпадаюць стагоддзі беларускай культуры, гэта спецыяліст з адным вокам. Зараз у Мінску сярод навукоўцаў толькі некалькі (!) чалавек можа перакласці з літоўскай, а гэта азначае, што дасягненні нашых суседзяў, з якімі нас звязваюць стагоддзі агульнай гісторыі, застаюцца нам не вядомымі.

Працэс навучання польскай мове спрасціў бы: выкладчык на працягу аднаго-двух занятkаў дае фанетычныя тлумачэнні, а потым толькі патрабуе пісьмовыя пераклады прац па спецыяльнасці. Бытавую лексіку лёгка засвоіць пры дапамозе відэамагнітафона: абавязковы прагляд вечарам у інтэрнаце на працягу семестра па аднаму мастацкаму фільму Польскага тэлебачання дасць болей карысці, чым год заняткаў.

**Дарэчы, выкладанне латыні ў гісторыкаў пераарыентаваў бы з класічнай на вульгарную — з прыцэлам на тую лексіку, якая сустракаецца ў сярэдневяковых крыніцах. Пакуль што ў гісторыкаў латынь — пятае кола ў драбінах. Любы дакумент XVI ці XVII стагоддзяў, які датычыць гісторыі Беларусі, звычайны гісторык не здолее прачытаць — тыя дзесяць лацінскіх слоў, што сустрэнуцца ў старабеларускім ці польскім тэксце, будуць для яго непераадольнай цяжкасцю. Дзякуй Богу, што ў студэнта хаця не ўзнікне з гэтай нагоды комплексаў — ён да апошніх дзён навучання не сутыкнецца з такімі дакументамі.**

5. Абавязкова ўвёў бы курс матэматычнай статыстыкі, таму што камп'ютэр, які так настойліва (і бяздумна) імкнуцца ўвесці ў ВНУ і школу, без ведання прыёмаў матстатыстыкі —аўтамат без патронаў. Даследчык, які ўмее праграміраваць, але не ведае, што і для чаго праграміраваць, так і будзе карыстацца метадамі мінулага. Студэнт-гісторык, які не атрымаў матпадрыхтоўкі, калі стане вучоным, будзе пісаць сумнавядомае: «Стан прыгонных сялян пагаршаўся», і не здолее пацвердзіць свае высновы лічбай. З такіх невукаў з цягам часу і вырастаюць фальсіфікатары. Гісторык, які не мае адпаведнай матэматычнай падрыхтоўкі, падобны на цесляра, што не ўмее забіваць цвікі. Здаецца, хутка гэта можна будзе сказаць і пра філолага, журналіста, а таксама іншых гуманітарыяў.

6. Пра мову выкладання. Частка выпускнікоў пойдзе ў беларускія школы, а тыя, хто стане навуковымі работнікамі, сутыкнуцца з цяжкасцямі пры публікацыі сваіх артыкулаў, калі яны будуць валодаць толькі адной мовай. Выкладанне толькі на рускай, па сутнасці, азначае, што Міністэрства народнай адукацыі робіць дыверсію супраць сябе; рыхтуе спецыялістаў, якія не ў стане выкладаць на беларускай мове. Тым больш недаравальна гэта ў наш час, калі прыняты Закон аб мовах у Беларускай ССР.

7. Выпуск дыпломніка кафедры археалогіі, які не ўмее фатаграфаваць, лічыў бы бракам. Далей. Калі выпускнік-археолаг не можа скласці каштарыс на археалагічныя даследаванні— чаго ён варты? Нават калі глыбока ведае неаліт Беларусі ці матэрыяльную культуру Кіеўскай Русі. Наогул, зрабіў бы гасразлік, і тых выпускнікоў, якія нічаму не навучыліся ў студэнцкія гады, пасля размеркавання вяртаў бы назад па рэкламацыі ўстаноў і прадпрыемстваў і давучваў бы за кошт кафедраў. Сувязь з вытворчасцю, пра якую так многа гавораць, думаю, адразу наладзілася б.

8. Ліквідаваў бы справаздачнасць студэнтаў за прачытаныя перад насельніцтвам лекцыі. Увёў бы другі паказчык грамадскай актыўнасці: студэнт павінен мець не меней адной публікацыі ў год у перыядычным друку (шматтыражкі, раённыя газеты і г. д.). Карысць была б несумненная. ВНУ вучыць пісаць курсавыя работы аб'ёмам па 20—50 старонак, што зусім не адпавядае стану, з якім сутыкнецца выпускнік на працы — яму прыйдзецца пісаць міні-артыкулы па 2—8 старонак. Патрабаванне штогадовай публікацыі без асаблівых натацый прывучыла б да сцісласці. Да абароны дыпломных дапускаў бы толькі тых, хто мае адпаведную колькасць газетных публікацый, астатнія, калі ласка, здавайце дзяржаўны экзамен па ўсіх асноўных курсах.

**Калі ісці далей, то рэарганізаваў бы журфак, зрабіў бы групы журналістаў і філосафаў, палітэканомаў, гісторыкаў, географаў і г. д. Іншы раз бывае сорамна за непрафесійны ўзровень матэрыялаў друку, газетчык хоць у нечым, ды павінен быць спецыялістам, пісаць пра ўсё — не лепшае выйсце.**

9. Увёў бы абавязковую паўторную здачу экзаменаў па кожнаму курсу (скажам, праз месяц пасля першай паспяховай здачы). Не сакрэт, што цяпер веды ў студэнта трымаюцца толькі да экзаменаў. Добра вядома, што паўтарэнне — паляпшае засваенне. Калі паўтарэнне не звязаць са стыпендыяй, то яно так і застанецца добрым пажаданнем.

10. Вырашыў бы праблему «вучэбная праграма — бульба». Дзесяткі гадоў складаюцца ідэальныя праграмы, нібыта ў гэтым годзе, нарэшце, «бульбы» не будзе. Ці складаць праграмы з улікам таго, што месяц будзе вырваны з вучэбнага працэсу, ці дабавіць месяц за кошт летніх канікулаў.

11. Замаўляў бы выдавецтвам кожны год дадрукоўваць неабходную колькасць асноўных падручнікаў, з тым, каб кніга выкуплялася студэнтам і заставалася ў яго карыстанні (ці аддаваць бясплатна). Тады на працу прыходзіў бы спецыяліст са сваёй бібліятэчкай даведачнай літаратуры. Гэта дало б магчымасць разгрузіць бібліятэку ВНУ, выдавецтвы былі б вымушаны спыніць паток падручнікаў, на якія студэнты ставяць патэльні — іх ніхто не будзе набываць.

12. Скараціў бы колькасць лекцый. Калі існуе патрэба ў лекцыях, гэта азначае, што няма падручніка па курсу. Калі падручнік не выдадзены на працягу трох гадоў — гэта ненармальна. Даў бы студэнту як мага болей вольнага часу, але кантроль за ведамі ўзмацніў. Існуе падручнік, і калі студэнт не можа авалодаць праграмай курса пасля таго, як яго навучылі ў першым семестры працаваць з кнігай, значыць, гэта не студэнт.

А ЗАРАЗ пытанне да сябе: калі б быў выпускніком сярэдняй школы ці стаў бы на такіх умовах паступаць у ВНУ? Шчыра: стаў бы!

**Іван СІНЧУК, навуковы супрацоўнік.**

*Гумарэска*

# Сустрэча

— Стаяць! Не рухацца! Цыгарэты ёсць? — Мікола паварочваецца і бачыць свайго даўняга сябра па універсітэту:

— Дзень добры. Ты мяне напужаў... Чаго гэткі заклапочаны? Як справы? Амаль што пяць гадоў не бачыліся.

— Ды вось еду ў камандзіроўку заўтра.

— А куды, што рабіць будзеш?

— Не, тут гэткая справа, — ён наблізіўся да сябра і ціха мовіў: — мафію паеду раскрываць.

— А як гэта будзеш рабіць?

— Дык вось слухай, толькі пра гэта ніколі нікому, добра?

— Добра.

— Прыеду я туды. А там мясцовыя мафіёзі адзначаюць кожную трэцюю суботу месяца выпіўкай. Прыеду, вып'ю, усё пра іх выведаю і — у газету. Інтэрв'ю інкогніта, так сказаць.

— А ты не баішся, што яны цябе разгадаюць і заб'юць?

— Не. Са мной жонка. Яна майстар па дзюдо і каратэ. Абароніць. Ды і міліцыя будзе ля ўваходу напагатове.

— У, які ты храбры! А дзе гэта будзе?

— У Баранавічах. Але ты маўчок. Я табе, як сябру, расказаў.

...Прыйшоўшы дамоў, Мікола набраў міжгародні нумар тэлефона:

— Ало, шэф? Наша пасяджэнне ў гэту суботу трэба адмяніць. Я тут сябра сустрэў...

**М. ВАСІЛЕЎСКІ, студэнт 1 курса факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна.**